PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 30 (1889) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 26 ЛІПЕНЯ 1992 г. ЦАНА 2000 зл.



*На сустрэчы ў Беластоцкім радыё. Злева: міністр інфармацыі Анатоль Бутэвіч і яго намеснік Іван Карэнда.*

## ЦІ ЎРЭШЦЕ БУДЗЕ АБМЕН ІНФАРМАЦЫЯЙ?

**Пры нагодзе падпісання паміж Польскім і Беларускім тэлебачаннем пагаднення аб супрацоўніцтве (канкрэтна, пагадненне датычыла абмену тэлеперадачамі паміж Менскам і Варшавай) у Польшчы пабывалі міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь АНАТОЛЬ БУТЭВІЧ і ягоны намеснік ІВАН КАРЭНДА.** Журналісты „Нівы" сустрэліся з імі двойчы, у Беластоцкім радыё (11 ліпеня) і ў сваёй рэдакцыі (13 ліпеня). Размова ішла як пра агульны стан інфармацыйнай палітыкі ў Беларусі, так і пра канкрэтныя мерапрыемствы для паляпшэння абмену інфармацыяй паміж Беларуссю і Беласточчынай. Паколькі справа тут датычыць і „Нівы", лічым, што варта пазнаёміць нашых чытачоў хаця б з асноўным зместам тае размовы.

Міністэрства інфармацыі Беларусі створана толькі сёлета, яно яшчэ ўсё арганізуецца. Міністэрства створана „на базе" былых Камітэта па друку і Дзяржтэлерадыё (гэтая ўстанова апошнім часам пераўтварылася ў Нацыянальную дзяржаўную тэлерадыёкампанію Беларусі; яе старшыня, **АЛЯКСАНДР СТАЛЯРОЎ**, падпісаў вышэй згаданае пагадненне ў Варшаве). Міністэрству інфармацыі падпарадкавана практычна ўся сфера масавых публікатараў Рэспублікі. Міністэрства займаецца рэгістрацыяй усіх газет і часопісаў у Беларусі (цяпер іх каля 570, з чаго 140 — беларускамоўныя), і таксама іх падтрымкай (урад фінансуе поўнасцю 18 перыядычных выданняў, падпарадкаваных Міністэрству інфармацыі). Далей, у кампетэнцыі Міністэрства знаходзіцца кнігадрукаванне (10 буйных дзяржаўных выдавецтваў і больш за трыста ліцэнзіятаў (арганізацый і прыватных асоб), якія маюць права займацца выдавецкай дзейнасцю). Міністэрству падпарадкавана таксама ўся паліграфія (друкарні і матэрыяльнае забеспячэнне друку). Сетка дзяржаўнага і кааператыўнага кнігагандлю — наступная дзялянка міністэрскага ведамства (сюды ўваходзіць таксама „Саюздрук" — адпаведнік нашага „Руху"). У сістэме Міністэрства знаходзіцца і Дзяржаўная кніжная палата — установа, якая займаецца статыстыкай і аналізам працэсаў у сферы кнігавыдання і ў сродках масавай інфармацыі. Дзяржаўнае радыё і тэлебачанне — натуральна, таксама пад Міністэрствам. Тэлебачанне на Беларусі — гэта 3 каналы: I — астанкінскі (з Масквы), II — беларускі, III — расейскі. У недалёкай будучыні прадбачваюцца наступныя змены: беларускі з астанкінскім каналы заменяцца месцамі (I канал, з увагі на большую магутнасць перадатчыкаў, мае большы абсяг гледачоў), а III расейскі пастунова будзе папаўняцца беларускамоўнымі перадачамі (на ім таксама будуць трансляваца перадачы нацыянальных меншасцяў у Беларусі). Урэшце, у структуры Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь знаходзіцца Інспекцыя па ахове дзяржаўных тайнаў — гэта тое, што засталося ад папярэдняй цэнзуры (працуюць у гэтай інспекцыі 23 чалавекі, якія чытаюць газеты пасля іхняга выхаду з друкарні).

Нягледзячы на фінансавыя цяжкасці, дзяржава падтрымлівае матэрыяльна сферу масавых публікатараў. На поўным дзяржаўным утрыманні знаходзяцца Кніжная палата і Дзяржаўная тэлерадыёкампанія. Выдавецкая дзейнасць падтрымліваецца двума шляхамі — дзяржаўнай датацыяй (да 50 % бюджэту дзяржаўных выдавецтваў) і дзяржаўнымі заказамі. Другая дзялянка актыўнасці Міністэрства — выпрацаванне ўласных законаў адносна сродкаў масавай інфармацыі: закона аб друку, аб аўтарскім праве, аб ахове дзяржаўнай тайны. Сваіх законаў у гэтай сферы пакуль што Рэспубліка Беларусь не мае.

Накont абмену інфармацыяй з беларусамі Беласточчыны — тут сумная праўда: мы на Беласточчыне амаль зусім непадрыхтаваныя да пакарыстання тымі формамі супра-

працяг на стар. 7

## ГАРЫЦЬ ЛЕС

2 ліпеня ў Кляшчэлеўскай гміне (непадалёк вёскі Елянка) згарэла каля 150 гектараў 30-гадовага лесу. Страты ацэньваюцца на 1 мільярд злотых. „Быў гэта самы вялікі пажар лесу ў нашым ваяводстве за апошнія 10 гадоў, — кажа старшы капітан пажарнай аховы **Ян Паплаўскі**, з Ваяводскай камендатуры Дзяржаўнай пажарнай стражы ў Беластоку, — прынамсі ад часу, калі я тут працую".

Колькасць пажараў звычайна ўзрастае вясною, калі робіцца суха, каб дасягнуць свой апагей у летнія месяцы. Так бывае штогод, аднак мінулы год, як і гэты (прынамсі да сённяшняга дня) адзначаюцца, на фоне папярэдніх, рэзкім павышэннем колькасці пажараў. Калі, у сярэднім, штогадова налічваецца ў Беластоцкім ваяводстве 600—800 пажараў, дык у мінулым годзе было іх 1117. Сёлета можа быць новы рэкорд, яшчэ горшы. Для параўнання: у маі 1991 г. было 99 пажараў, сёлета — 130, у чэрвені, адпаведна — 91 і 169. Найбольш разоў давялося пажарнікам выязджаць да агню ў сакавіку гэтага года — 230 (у мінулым — 94), а такім чорным днём было 11 сакавіка — 35 пажараў,

Часта бывае больш дыму, чымсьці агню, напрыклад, з гарадскіх сметнікаў, падпаленых дзецьмі. Але, на жаль, здараюцца і вялікія, сапраўды небяспечныя пажары. Наогул, найбольшыя бываюць на вёсцы. Сёлета, для прыкладу, 3 чэрвеня ў Рудутах каля Орлі згарэла 6 клуняў; 6 чэрвеня ў Пяцівалоках (Дубровская гміна) – клуня, абора, гараж; 13 чэрвеня ў Боцьках — 4 клуні, 2 хлявы, гараж.

Сёлетняя засуха паўплывала на рост колькасці пажараў лесу. Ужо ў сакавіку ў Беластоцкім ваяводстве лес гарэў 32 разы, у красавіку — 20, у маі — 37 і ў чэрвені — 55 разоў. „Галоўная прычына ўсіх пажараў гэта людская неасцярожнасць, — кажа капітан Паплаўскі. — Людзі не звяртаюць увагі на сапраўдную небяспеку, абыякава адносяцца да элементарных правілаў пажарнай аховы, урэшце, не хапае ім звычайнай здольнасці поўнасцю ўявіць сабе небяспеку. Колькі ўжо мы разоў не звярталіся з заклікамі, каб не выпальваць вясною сушку, нічога не памагло. А цяпер у лесе хопіць адна іскра, каб успыхнуў пажар. Калі б людзі сабе гэта ўсведамлялі і захоўвалі надзвычайную асцярожнасць, не было б тых пажараў і затрат".

Практычна, у нашым ваяводстве няма дня без агню. Калі такія дні і здараюцца, дык можна іх палічыць на пальцах адной рукі, кажуць у Ваявод-

працяг на стар. 5




ЧАСТКА III

Беларусь, як і ўсе іншыя савецкія рэспублікі, а таксама краіны народнай дэмакратыі, нечакана і раптоўна павярнула са „шляху, які вёў у сацыялізм" і ўзышла на шлях, які вядзе ў капіталізм. Усё тое, што ў гаспадарцы і палітыцы будавалася з такой напорыстасцю і такімі ахвярамі на працягу сямідзесяці гадоў, аказалася не толькі непрыдатным, але стала баластам, які перашкаджае рухацца наперад. Гіганцкія заводы тыпу Мінскага трактарнага, Мінскага аўтамабільнага, Гомельскага сельска-машыннага, Полацкага нафтаперапрацоўчага і многіх дзесяткаў іншых, у якіх працавала па дваццаць-трыццаць і болей тысяч рабочых, аказаліся не дасягненнем, а перашкодай на шляху да мадэрнізаванага грамадства. Ужо ўзнікаюць канцэпцыі падзелу гэтых заводаў на дзесяткі малых прадпрыемстваў, якія будуць прадукаваць не тое, што прадукавалі дагэтуль.

Усё галасней і выразней гаворыцца аб неабходнасці прыватызацыі беларускай прамысловасці, гандлю, паслуг. Усё гэта для мяне — чалавека, выхаванага ў мінулай эпосе, незвычайнае і часта незразумелае. Аднак, мабыць, няма ўжо іншага выхаду і Беларусь мусіць пайсці па капіталістычным шляху.

Калісьці Ленін сказаў, што дагнаць і перагнаць капіталізм зможам тады, калі ў сацыялістычнай сістэме будзе большая прадукцыйнасць працы, чым у сістэме капіталістычнай. Гэта эканамічнага адставання сацыялізму ад капіталізму. Аднак аказалася, што нельга сілаю слова перамагчы сілу эканамічнага закону. Капіталізм аказаўся мацнейшым, чым сацыялізм у эканоміцы. Сацыялізм не толькі не даганяў перадавыя капіталістычныя краіны, але пачаў усё выразней адставаць. У канцы канцоў гэта гонка закончылася крахам для сацыялістычных краін. У пропасць капіталізму. Які ён будзе ў Беларусі, я не ведаю. Вядома, аднак, што на пачатку прынамсі горычы ў ім будзе намнога больш, чым слодычы. Але ж ці можа быць па-другому ў перыяд вялікай ломкі?

## БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

значыць, тады, калі сацыялістычны работнік на працягу адной гадзіны, аднаго дня, тыдня, ці года будзе вытвараць болей, чым яго капіталістычны калега. І гэтае сцвярджэнне не можа аспрэчвацца, бо яно праўдзівае.

Бяда ўся ў тым — і гэтага не прадбачыў Ленін,— што перагнаў у вытворчасці працы не сацыялістычны, а капіталістычны рабочы.

Кіруючыя ў сацыялістычных краінах партыі думалі, што пры дапамозе заклікаў, абавязацельстваў, спаборніцтваў зменяць тэндэнцыю паляцелі не толькі дрэнныя якасці сацыялізму, такія, як абмежаванне правоў чалавека, аднапартыйнасць, цэнзура, але і добрыя якасці, напрыклад: бясплатная асвета, бясплатная ахова здароўя, шырокі доступ да працы, танныя кватэры і г.д.

Аднак аказалася, што нельга ліквідаваць толькі тое, што ў сацыялізме дрэннае, і пакінуць тое, што добрае. Трэба было або ўсё пакінуць або ўсё ліквідаваць. Гісторыя ўжо распарадзілася ў гэтай справе — ліквідавала сацыялізм татальна. На яго месцы паяўляюцца парасткі

Польшча, як вядома, у працэсе капіталізацыі перагнала Беларусь і ў нас ужо ўзнікаюць тыповыя капіталістычныя ініцыятывы. Гэтыя ініцыятывы праяўляюць таксама і многія беларусы. Насуперак поглядам тых беларусаў, якіх я цытаваў у папярэдніх адрэзках „Беларускіх капіталістаў", лічу, што намнога лепш будзе, калі на Беласточчыне будуць гаспадарыць беларускія, а не нямецкія ці англійскія капіталісты. Нягледзячы на афарызм: „дзе ёсць грошы, там няма душы", веру, што беларусы-бізнесмены не праявяць той жорсткасці і той скупасці, якую праявяць капіталісты чужыя. І таму лічу, што мы, беларусы, мусім памаленьку асвойвацца і прабаваць тое, што сталася непазбежным і заклікаman да жыцця гісторыяй.

АЛЕСЬ БАРСКІ

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### ЗА ЎСЁ, ШТО СЁННЯ МАЕМ

Урачыста было адзначана на Беларусі 110-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы. У тэатры, які носіць імя славутага Песняра, адбылася вечарына, прысвечаная юбілею, быў паказаны спектакль па п'есе „Тутэйшыя".

### ЗБРОЯ НЕ БУДЗЕ ПАТРЭБНА

Беларусь будзе дзяржавай-пасрэднікам у перагаворах па ўрэгуляванню канфлікту ў Прыднястроўі.

Такую навіну паведаміў журналістам Старшыня беларускага парламента Станіслаў Шушкевіч. Праўда, пасрэдніцтва Беларусі будзе толькі за сталом перагавораў. „Аб увядзенні беларускіх войскаў у буферную зону на Днястры не можа быць і гаворкі", — заявіў спадар Шушкевіч.

І сапраўды, навошта рызыкаваць жыццём нашых хлопцаў?

### ДЭМАКРАТ ДЭМАКРАТА БАЧЫЦЬ ЗДАЛЁК

Па запрашэнні Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі Менск наведаў былы прэм'ер-міністр Польшчы Ян Кшыштаф Бялецкі, а таксама прадстаўнікі ліберальна-дэмакратычнага клуба польскага Сейма.

Беларускія і польскія дэмакраты вельмі хутка паразумеліся і падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве. Наколькі плённымі атрымаюцца кантакты паміж абодвума бакамі — пакажа час. Што ж датычыць асабіста пана Бялецкага, то ён быў дыпламатычна стрыманы ў сваіх выказваннях адносна беларуска-польскіх адносінаў.

### СЛУГА ДЗВЮХ ДЗЯРЖАЎ

Народны дэпутат Беларусі генерал лейтэнант Дубынін днямі прызначаны начальнікам Генеральнага штаба ўзброеных сілаў Расеі.

Факт даволі кур'ёзны. Але сам віноўнік пакуль што не спяшаецца здымаць з сябе дэпутацкія паўнамоцтвы. Відаць, спадзяецца, што зможа паспяхова служыць адразу і Расіі, і Беларусі.

### ШЭВАРДНАДЗЕ НАМ НЕ ДРУГ

Беларусь прызнае Грузію толькі пасля новых выбараў. Аб гэтым заявіў падчас прэс-канферэнцыі Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіслаў Шушкевіч.

Увогуле, спікер беларускага парламента не вельмі цёпла адазваўся аб цяперашнім кіраўніку Грузіі Шэварднадзе.

На думку Шушкевіча, былы міністр замежных спраў СССР Шэварднадзе са знявагай ставіўся да Беларусі. Фактычна з ласкі Шэварднадзе на Беларусь запланаваны вывад вялікай колькасці войскаў з Усходняй Еўропы.

Між іншым, шчыра кажучы, Эдуард Шэварднадзе і да ўлады ў Грузіі прыйшоў не дэмакратычным шляхам. Яго проста запрасілі на пост старшыні Дзяржсавета Грузіі апазіцыянеры, што скінулі законнага Прэзідэнта гэтай рэспублікі Гамсахурдзія.

МІКОЛА ДЗЯБЁЛА

# З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Віцэ-консульства ФРГ** адкрыта ў Аполі. З'яўляецца яно філіяй Генеральнага консульства ў Вроцлаве і будзе абслугоўваць польскіх і нямецкіх грамадзян з Катавіцкага, Чанстахоўскага і Апольскага ваяводстваў.

**Нямеччына і Расія** падпісалі пратакол у справе паступовага вяртання аўтаноміі надвалжанскім немцам. Расія абавязалася ўзнавіць **Нямецкую Аўтаномную Рэспубліку**, якая існавала да 1941 года. Нямеччына прызначыць у гэтым годзе 100 млн. марак на дапамогу для нямецкага насельніцтва ў Расіі.

**Члены Грамадска-культурнага таварыства чэхаў і славакаў** у Польшчы вырашылі, што іх арганізацыя не падзеліцца на славацкую і чэшскую фракцыі. Пастанова аб далейшых лёсах Таварыства будзе прынята тады, калі яснай стане юрыдычная сітуацыя Чэхіі і Славакіі. А цяпер Таварыства хоча арганізаваць уласнае выдавецтва, ладзіць тэатральныя мерапрыемствы і выдае двухмоўны месячнік „Жывот". Чэшская меншасць у Польшчы — гэта пераважна патомкі рэлігійных бежанцаў, якія прыбылі ў Польшчу ў XV ст. Жывуць яны ў Пятркоўскім і Валбжыхскім ваяводствах. Славацкая меншасць (25 тысяч), якая жыве на Спішы і Араве, мае 19 падставовых школ і адзін агульнаадукацыйны ліцэй у Ябланцы. Славацкую мову вывучае 500 вучняў.

Урад Расіі дазволіў чужаземцам на свабодны ўезд ва ўсе раёны краіны за выключэннем: часткі Камчаткі, Камсамольска на Амуры, вострава Руская ў Прымор'і, шэрагу раёнаў у Маскоўскай, Ленінградскай, Арэнбургскай, Ніжнегародскай, Архангельскай, Мурманскай, Свярдлоўскай, Чалябінскай, Калінінградскай, Валгаградскай, Астраханскай абласцях, у Краснаярскім краі, у Мардоўскай рэспубліцы — і іншых раёнаў Расіі.

**Каля ста асірацелых расійскіх дзяцей** было на працягу апошніх шасці месяцаў прададзена за граніцу дзеля ўсынаўлення. У справу гэтых нелегальных дзеянняў былі ўмешаны рускія дэпутаты і дзеячы арганізацыі „Фонд дзяцей Леніна". „Куплялі" дзяцей галоўным чынам скандынавы і амерыканцы.

**Жыхары Бельска-Падляшскага** ўшанавалі памяць пяцідзесяці чалавек, расстраляных немцамі ў Пiліцкім лесе. Каля помнікамаўзалея адбылося набажэнства, а казанне сказаў генеральны вікарый кс. д-р **Эўгеніюш Бароўскі**. На месцы расстрэлу, перад помнікам і на магілах былі запалены знічы і ўскладзены кветкі.

Новую аўтобусную лінію **Беласток — Калінінград** адкрылі транспартныя прадпрыемствы „Біятра" з Беластока і „Автоколонна" з Калінінграда. Два разы ў тыдзень будуць адпраўляцца аўтобусы з Беластока (у аўторак і чацвер) і з Калінінграда (у сераду і пятніцу). Падарожжа ў адзін бок каштуе 150 тысяч зл. або 1200 рублёў (11 долараў ЗША).

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* Рэпартаж з „Басовішча'92".
* Франук Грышкевіч з Сухаволі – паэт невядомы.
* З гісторыі Грыневічаў Вялікіх.
* Прыгранічны абмен Белавежы і Пружан.
* Камунікат Міжнароднага камітэта беларусістаў.

Рэдакцыя тыднёвіка „Ніва" выказвае глыбокае спачуванне

**АНТОСЮ І ЯЎГЕНУ МІРАНОВІЧАМ**

з прычыны напаткаўшага Іх гора

— смерці **МАЦІ**

### Аб'ява

Група фірмаў з Беластока і Катавіцаў наладзіць гандлёвы абмен з фірмамі з Беларусі, Украіны і Расіі. Адрас: Sergiusz Ostapczuk, ul. Kotlarza 7E/4, 40-145 Katowice, tel. 1502009.

### З „БАСОВІШЧА"

На злосць неспрыяльным людзям і капрызнай аўры „Басовішча" адбылося. Ды яшчэ якое!

Наймалодшаму ўдзельніку было роўна чатыры месяцы, найстарэйшаму — ...

Выканаўцаў — як гуртоў, так і салістаў — было каля двух дзесяткаў. Упершыню атрымалі яны ўзнагароды.

І так:

— радыёстанцыя „Беларуская маладзёжная" аддала прыз за найлепшы гіт на фестывалі двум гуртам: „Мясцоваму часу" з Полацка і „Палацу" з Менска;

— публіцы найбольш спадабаўся „Уліс" з Менска (фундатарам гэтай узнагароды была гарадоцкая гмінная рада);

— Лёнік Тарасэвіч сваю ўзнагароду за авангардныя якасці ў беларускім мастацтве аддаў таксама „Улісу";

— першае месца сярод бардаў — **Віктар Шалкевіч** з Гародні (узнагарода ад Беластоцкага радыё);

— **галоўная ўзнагарода арганізатараў — Беларускага аб'яднання студэнтаў — рок-гурту „КРАМА"** з Менска. (ак)

# ЗЛАВЕСНЫЯ BZDURY

Спатканне старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча з беларусамі Беластока (аб якой мы пісалі два тыдні таму) знайшла сваё адлюстраванне і ў „Кур'еры Падляскім". Гэты беластоцкі штодзённік на зломе 1988/89 г.г. праславіўся антыбеларускай істэрыкай „Pod różnymi krzyżami", а так наогул разлічвае на чытача, які цікавіцца ўсялякай чарнухай і таннай сенсацыяй. У гэткім плане рэдактары „Кур'ера" патрактавалі і візіт галавы Беларускай дзяржавы ў Беластоку (глядзі вытрымкі з артыкула „Dzwony od prezydenta" у „Кур'еры Падляскім" ад 29.06.1992 г.). Ілжывыя сцверджанні аб тым, нібыта на сустрэчы патрабавалася далучыць Беласток да Беларусі (а таксама Вільню), нельга, аднак, аднесці да звычайнага рэпертуару падбрэхвічаў: яны падкопваюць падставу добрасуседскіх адносін дзвюх незалежных дзяржаваў і злосна супрацьстаўляюць сабе польскую і беларускую грамадскасці на Беласточчыне. У сувязі з гэтай публікацыяй старшыня Галоўнай рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання Алег Латышонак напісаў беластоцкаму ваяводу ліст (копію змяшчаем), патрабуючы ад яго прыняць судовыя меры супроць паклёпу „Кур'ера". Як паставіўся да гэтай афёрнай справы беластоцкі ваявода, можна даведацца з адказу Ваяводскай управы, які таксама прыводзім. Два аспекты ў гэтым адказе ўражваюць. Па-першае, ваявода ўвогуле не прыняў на сябе ролі гаспадара таго спаткання (якое адбылося ў памяшканні Ваяводскай управы). Па-другое, ніхто з ураднікаў тае ўправы не лічыць сябе кампетэнтным у беларускай мове настолькі, каб зразумець, аб чым сапраўды гаварылася на тым спатканні. Неадольна сунецца выснова: а ці ўвогуле Ваяводская ўправа мае настолькі кампетэнцыі, каб кіраваць ваяводствам нацыянальна мяшаным?

Як кажуць, ваявода umył ręce. Разбірайцеся тут самі. І не мае тут для яго значэння, што такая **публікацыя ўжо на самым пачатку ставіць пад сумненне тыя намеры добрасуседства, дзеля якіх быў падпісаны польска-беларускі трактат і дзеля якіх беларуская дэлегацыя наведала Беласток.**

**Я.М.**

* * *

Późnym popołudniem goście z Mińska powrócili do Białegostoku. W sali konferencyjnej UW oczekiwali już przedstawiciele białostockiej mniejszości białoruskiej. Sala w połowie była pusta, co oznacza, że nie wszyscy zechcieli skorzystać z możliwości rozmowy ze swoim prezydentem. Dyskusja była ciekawa, choć nie pozbawiona emocji. (...)

Jeden z uczestników żądał włączenia Białegostoku do Białorusi, inny namawiał, żeby razem ruszyć na Wilno, gdyż jest to miasto polsko-białoruskie. (...)

Inny proponował, żeby ustawowo zapisać, że na terenach zamieszkałych przez mniejszość wszystkie stanowiska w administracji rządowej i samorządowej zagwarantować dla ich przedstawicieli. (...)

*"Kurier Podlaski" nr 123 z 29.06.1992 r.*

**Pan Wojewoda Białostocki**

Szanowny Panie!

Pozwalam sobie zwrócić Pańską uwagę na artykuł p.Hieronima Wawrzyńskiego pt. "Dzwony od prezydenta", zamieszczony w "Kurierze Podlaskim" Nr 123(2289) z dn. 29.06.1992r.

Artykuł przedstawia nieprawdziwy obraz spotkania Przewodniczącego Rady Najwyższej Republiki Białoruś p. Stanisława Szuszkiewicza z Białorusinami Białostocczyzny.

Sugerowanie, że pan Szuszkiewicz jest "naszym prezydentem", obraża naszą godność obywateli Rzeczypospolitej Polskiej. Nikt też nie domagał się ustawowego zagwarantowania stanowisk w administracji rządowej i samorządowej dla miejscowych Białorusinów, a tym bardziej włączenia Białegostoku do Białorusi.

To ostatnie kłamstwo szczególnie boleśnie dotknęło Białorusinów.

Redakcja "Kuriera Podlaskiego" nie pierwszy raz obraża Białorusinów i jątrzy w stosunkach polsko - białoruskich na Białostocczyźnie. Tym razem jednak sprawa dotyczy oficjalnej wizyty głowy sąsiedniego i zaprzyjaźnionego państwa i spotkania, którego Pan Wojewoda był gospodarzem. Stąd też oczekuję, że to właśnie Pan wystąpi na drogę sądową przeciwko redakcji "Kuriera Podlaskiego" w obronie swoich gości i współobywateli.

P.S. Załączam kserokopię rzeczonego artykułu.

Do wiadomości:
1. Ambasada RB w Polsce
2. Redakcje gazet.

Podpisał
Przewodniczący Rady Głównej
Białoruskiego Zjednoczenia
Demokratycznego
**Oleg Łatyszonek.**

Białystok, 1992.07.13
**Pan Oleg Łatyszonek**
Przewodniczący Rady Głównej Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego

Odpowiadając na wystąpienie Pana Przewodniczącego, w imieniu Pana Wojewody Białostockiego prof. Stanisława Prutisa pragnę przypomnieć i wyjaśnić, że spotkanie Pana Przewodniczącego Rady Najwyższej Republiki Białoruś z przedstawicielami mniejszości białoruskiej na Białostocczyźnie odbyło się w ramach nieoficjalnej części wizyty, na życzenie Pana Prezydenta.

Wojewoda zorganizował jedynie to spotkanie, użyczając pomieszczeń sali konferencyjnej Urzędu. W spotkaniu nie uczestniczył, by nie krępować swobodnej wymiany poglądów. Rolę prowadzącego przyjął minister spraw zagranicznych Pan Piotr Krawczanka. Spotkanie odbyło się w języku białoruskim, co najwyraźniej odpowiadało stronom spotkania. Wypowiedzi nie tłumaczono ze względów kurtuazyjnych, ponieważ żadna ze stron tego nie oczekiwała.

W tej sytuacji Wojewoda Białostocki nie ma możliwości zajmowania stanowiska w sprawie treści wypowiedzi uczestników spotkania i późniejszych relacji prasowych. Nie podejmie też - wbrew zapowiedziom "Kuriera Porannego" - żadnych "stosownych działań".

W szczególności Wojewoda nie wystąpi z powództwem przeciw "KP" ponieważ w opisanych wyżej warunkach faktycznych, ustalenie stopnia naruszalności godności obywateli Rzeczpospolitej Polskiej w odniesieniu do ich wypowiedzi w języku białoruskim, nie leży w kompetencji i możliwościach polskiej administracji.

Wszelkie zastrzeżenia co do opublikowanych artykułów prasowych Białoruskie Zjednoczenie Demokratyczne może realizować na podstawie art. 31, 32 i 39 Prawa prasowego (Dz. U. Nr 5 z 1984r.), domagając się opublikowania sprostowania bądź odpowiedzi. Możliwa jest również droga sądowa.

Niniejsze wyjaśnienie udostępniamy prasie, ponieważ temat został już poruszony na jej łamach.

Z poważaniem
Dyrektor Wydziału Spraw
Obywatelskich
**mgr Grzegorz Rykowski**

# НАШЫ КАРАНІ

## XXXIX. СТАЛІ СУПОЛЬНАЙ СВЯТАСЦЮ

Дагэтуль мы гаварылі пра ўзмоцненае ўздзеянне на пераломе XIV і XV стагоддзяў на літоўскія, украінскія і беларускія землі каталіцкага веравызнання. Аднак трэба адзначыць, што адбываўся таксама і адваротны ўплыў.

Пасля Крэўскае уніі 1385 года разам з Якавам-Ягайлам-Уладзіславам на Вавель і наогул у Польскае Каралеўства пачала прыбываць значная колькасць яго бліжэйшых і далейшых родзічаў, людзей яму блізкіх, службоўцаў, войска. Яны ў асноўным былі праваслаўнымі і ўзрасталі ў традыцыях праваслаўнае культуры. З таго часу дзяржаўная граніца перастала быць перашкодай для шырокага ўзаемнага духовага і культурнага ўздзеяння паміж абедзвюма краінамі. Ян Длугаш запісаў: „... кароль Уладзіслаў перад лацінскай мовай і мастацтвам аддаваў перавагу рускай", тут выдатны польскі гісторык меў на ўвазе, вядома, старабеларускую мову і мастацтва. Ён жа паведаміў, што па жаданню Ягайлы касцёлы на Лысай Гуры, у Кракаве, Вісліцы, Сандаміры, Любліне і Гнезне былі аздоблены „грэцкім сценапісам", гэта значыць: такімі ж фрэскамі, як цэрквы ў Беларускай дзяржаве (Вялікім княстве Літоўскім). Польскія і расейскія гісторыкі мастацтва згодна сцвярджаюць, што ўжо на самым пачатку свайго панавання ў Польшчы кароль Уладзіслаў Ягайла ў 1393 г. запрасіў з Вільні ў Кракаў 11 майстроў царкоўнага жывапісу, а прыдворным каралеўскім мастаком стаў нейкі Якуб з Беларусі.

Капліца Святое Троіцы ў Люблінскім замку была ўпрыгожана фрэскамі на біблейскія і евангельскія тэмы ў падобным стылі як бельчыцкі Барысаглебскі манастыр каля Полацка і царква св. Фёдара Страцілата ў Вялікім Ноўгарадзе. Храм здобіла некалькі мастакоў, надпіс на старабеларускай мове паведамляе, што кіраваў імі майстар Андрэй. Праца была закончана 10 жніўня 1418 года. Нядаўна адрэстаўраваныя фрэскі яшчэ і сёння захапляюць высокім майстэрствам выканання, праменяць той глыбокай духовасцю, якая ўласціва старабеларускаму царкоўнаму мастацтву. Знаўцы ў люблінскім сценапісе адзначаюць наяўнасць шэрагу народных элементаў з Сярэдняга Пабужжа, між іншым, узор ручніка. Гэта паказвае або на паходжанне мастакоў, або на іх блізкае знаёмства з народным побытам і мастацтвам тадышняга Падляшша.

Дзесяцігоддзем пазней былі створаны праваслаўныя фрэскі ў сандамірскай каталіцкай катэдры. І больш-менш у тым жа часе паўстае манументальны старабеларускі насценны роспіс таксама ў каталіцкай калегіяце ў Вісліцы.

Названыя некалькі каталіцкіх храмаў на карэнных польскіх землях з насценным праваслаўным жывапісам — гэта толькі частка такіх аб'ектаў. Несумненна, што шэраг касцёлаў з такімі ж фрэскамі загінула ў той безлічы войнаў, якая на працягу мінулых шасці стагоддзяў пракацілася праз Польшчу. Магчыма таксама, што ў некаторых храмах, як напрыклад у вавельскай катэдры, пад тоўстай тынкоўкай усё яшчэ — як падазраюць некаторыя вучоныя — крыюцца колішнія праваслаўныя фрэскі.

Уплывы праваслаўнае духоўнае культуры ў штодзённым жыцці грамадства Каралеўства Польскага за панавання Уладзіслава Ягайлы былі значныя і не абмяжоўваліся царкоўным жывапісам. Яны пранікалі ў рэлігійную абрадавасць каралеўскага двара, у шляхоцкае асяроддзе, адтуль — у народ. Ва ўжытку былі праваслаўныя крыжы, іконы і іншыя атрыбуты Праваслаўя. Вядомы гісторык мастацтва Збігнеў Падгужэц у кнізе „Kult Maryjny w Kościele rzymskokatolickim w Polsce i w rosyjskim Kościele prawosławnym", якая адначасна выйшла ў Варшаве і Маскве ў 1989 г., між іншым, піша: „Самае славутае польскае ўяўленне Марыі — гэта абраз Маці Божай з Дзіцём (тып Адзігітрыя), які захоўваецца ў кляштары на Яснай Гуры ў Чэнстахове... Згодна з усялякім праўдападабенствам абраз паходзіць з Канстанцінопаля, адтуль праз Русь трапіў у Польшчу. Значыць, гэта — ікона, якая стала святасцю ў заходнім Касцёле (як, між іншым, многія візантыйскія і рускія іконы, што ўшаноўваюцца ў каталіцкіх храмах у Польшчы). Першы ўспамін пра абраз знаходзім у творы першага польскага гісторыка Яна Длугаша. У „Liber Beneficiorum" ён паведамляе, што князь Уладзіслаў Апольчык, засноўваючы ў Чэнстахове ў 1382 г. кляштар прыбыўшаму з Венгрыі ордэну паўлінаў, ахвяраваў яму адначасова абраз Багародзіцы. Чэнстахоўская ікона хутка запаланіла сэрцы палякаў... Цяперашні малюнак іконы паходзіць з гадоў 1431—1433. Таму што ў 1430 г. рабаўнікі, якіх звабіла багацце ахвяраванняў, што здобілі абраз, зганьбілі яго. Цудоўная ікона была паламана, а да таго аблічча Маці Божай было пакарэжана ўдарамі мяча. У такім стане абраз перавезлі ў Кракаў, дзе сам кароль Уладзіслаў Ягайла паклапаціўся, каб вярнуць яму папярэднюю пышнасць. Фактычна яго намалявалі нанава спецыяльна дзеля гэтага закліканыя мастакі (магчыма нават рускія). Тады таксама кароль Уладзіслаў Ягайла, каб узнагародзіць Марыю за перанесеную знявагу, загадаў па рускаму абычаю пакрыць абраз срэбнай рызай. Гэтак абноўленая і ўпрыгожаная ікона была праведзена ва ўрачыстай працэсіі з Кракава на Ясную Гуру. У гэтым першым паломніцтве абраза бралі ўдзел многатысячныя натоўпы людзей". Неабходна растлумачыць, што тут словы „Русь", „рускі" абазначае „беларускі" або „ўкраінскі".

**МІКОЛА ГАЙДУК**

## СПАТКАННЕ Ў ГЕРВЯТАХ

19—20 чэрвеня ў Гервятах Астравецкага раёна адбылося афіцыйнае спатканьне гісторыкаў Беларусі і Летувы, названае „Беларуска-Літоўскі стол, прысьвечаны Вялікаму Княству Літоўскаму„. Арганізатарамі і ініцыятарамі спатканьня выступілі Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, інстытуты гісторыі акадэміяў навук Беларусі і Летувы, Адзьдзел культуры Астравецкага райвыканкама, Беларускі Народны Фронт і літоўскі „Саюдзіс". Прысутнічалі кіраўнікі гэтых арганізацыяў, гісторыкі, археолагі, лінгвісты, гісторыкі літаратуры.

Дабрадзеямі круглага стала сталі доктар Анджэй Цеханавецкі (Лёндан), Беларускі Інстытут навукі і мастацтва (Нью-Ёрк), Беларускі Фонд Культуры, калгас „Радзіма" (Гервяты).

Пасьля таго як Літва і Беларусь сталі незалежнымі дзяржавамі, узьнікла неабходнасьць сістэматызаваць сваю гістарычную навуку, пазбавіцца ад ідэалагічных напластаваньняў, фальсіфікацыяў перыяду камунізму і скарэктаваць ацэнкі і погляды на агульную гісторыю дзьвюх суверэнных краінаў.

Спатканьне прайшло ў выключна цёплай і сяброўскай атмасферы ўзаемаразуменьня і павагі. Вынікам абмеркаваньня агульных праблемаў гісторыі Вялікага Княства стаў падсумовачны дакумент — „Паведамленьне", прыняты ўдзельнікамі круглага стала. Тэкст дакумента прапануем чытачам.

**ЗЯНОН ПАЗЬНЯК.**

### ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

**пра Беларуска-літоўскі навуковы круглы стол, прысьвечаны Вялікаму Княству Літоўскаму.**

19—20 чэрвеня ў м. Гервяты Астравецкага раёна Гродзенскай вобласьці адбылася сустрэча гісторыкаў Беларусі і Літвы.

Удзельнікі абмяркоўвалі праблемныя пытаньні гісторыі і метадалогіі дасьледавання Вялікага Княства Літоўскага з мэтай вызначыць агульныя падыходы да некаторых прынцыповых палажэньняў. Удзельнікі, узгадніўшы пазіцыі, зьвярнулі ўвагу на такі метадалагічны фактар, як супольнасьць дзяржаўнасьці, дзяржаўнай сьвядомасьці, дзяржаўных інтарэсаў і грамадзянскай ментальнасьці ў ВКЛ. Гэты феномен зьяўляецца бясспрэчнаю падставай навуковых падыходаў да вывучэньня спадчыны ВКЛ.

Была адзначана культуралагічная і палітычная ўнікальнасьць супольнай балта-славянскай дзяржавы, яе арганізацыйна-палітычнае адзінства.

Удзельнікі лічаць непрадуктыўным механічны перанос сучасных нацыянальных уяўленьняў на дачыненьні палітычных сілаў і тэндэнцыяў у ВКЛ. Патрэбы гістарычнай навукі і існаваньне дзьвюх суверэнных дзяржаваў — Рэспублікі Беларусі і Літоўскай Рэспублікі — прамых спадкаемцаў гісторыі ВКЛ — вымагаюць раскрыцьця сутнасьці супольнага дзяржаўнага ўтварэньня, якое можна вызначыць зь сёньняшняга гледзішча як літоўска-беларускую або — раўназначна — беларуска-літоўскую дзяржаву, улічваючы пры гэтым важкі ўклад, які ў палітычнае і культурнае разьвіцьцё ВКЛ працяглы час уносіў украінскі народ.

Палажэньні гісторыяграфічных канцэпцыяў, якія вынікаюць з палітычных меркаваньняў „трэціх сілаў" і тэндэнцыйных ацэнак гісторыі ВКЛ, непрыймальныя з навуковага пункту погляду.

Будучыня беларускага і літоўскага народаў і нашых дзяржаваў неадлучная ад раскрыцьця і аб'ектыўнай ацэнкі нашай мінуўшчыны.

* * *

Вырашана стварыць двухбаковую камісію гісторыкаў Літвы і Беларусі для вызначэньня формаў далейшага супрацоўніцтва і ажыцьцяўленьня канкрэтных прапановаў.

(Тэксты падаем у правапісе арыгінала.)

## СЕЗОН ПАД ГАЛАСЫ ПТУШАК

— Што чуваць у Белавежы? Што ж, лета — гэта турысцкі сезон і менавіта турызм надае рытм жыццю славутага мястэчка. Людзі едуць у пушчу нацешыць вочы зелянінай, падыхаць яшчэ даволі чыстым тут паветрам, ну, і пабачыць зуброў. Праўда, такога, як у сямідзесятыя гады, натоўпу не наглядаецца, але ўсё такі турысты ці экскурсанты трапляюцца белавежцам на вочы.

Да паловы ліпеня г.г. у Белавежы аднатавана каля 55 тыс. наведвальнікаў, у тым ліку каля 3,5 тыс. з заграніцы — амаль з 40 дзяржаў. Найбольш замежных турыстаў прыехала з Нямеччыны (каля 900 чалавек), Беларусі (каля 400), затым з Вялікабрытаніі, Францыі, Швейцарыі, Галандыі, ЗША, Аўстрыі, Расіі і Даніі. Жыхары Беларусі, Расіі і Украіны, калі трапляюць у Белавежу, то хутчэй за гандлем чым у турысцкіх мэтах. Як правіла, сустрэнеш іх на базарчыку, ля манапольна-спажывецкай крамы.

У параўнанні з такім самым перыядам мінулага года, у гэтым годзе лік прыездаў, хаця і нязначна, але паменшыўся. Напэўна прычынай гэтага з'яўляецца цяжкое гаспадарчае становішча нашай дзяржавы і збяднеласць яе жыхароў. У Белавежу едуць у большасці людзі з суседніх ваяводстваў. Экскурсій з супрацьлеглых бакоў Польшчы мала. Улетку найчасцей ходзяць па пушчы невялікія групкі, складзеныя пераважна з членаў адной — двух сем'яў.

Спецыяльных навінак у бягучым сезоне няма. Турыст аглядае тое, што і раней — паказны запаведнік зуброў, прыродазнаўчы музей, а, калі мае грошы наняць экскурсавода, то яшчэ і запаведнік прыроды — сэрца Белавежскага нацыянальнага парка. Турысты, прыбыўшыя ў Белавежу на ўласных аўтамашынах, заязджаюць апрача таго ва ўрочышча Старая Белавежа, дзе вандруюць кароткім турысцкім шляхам „Каралеўскіх дубоў". Аматараў вандравання іншымі, даўжэйшымі шляхамі, на жаль, вельмі мала. Шкада!

Зараз няма ніякай праблемы з харчаваннем. Рэстараны „Іва" і „Зуброўка"

## ПАЛЯКІ НА БЕЛАРУСІ

Сягоньня на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь жыве 418 тыс. палякаў альбо чатыры працэнты 10,3-мільённага насельніцтва. Большасьць іх жыве ў мястэчках і вёсках, некалькі дзесяткаў тысячаў у Гародні й Лідзе. Па-за Панямоньнем асобныя групы палякаў ёсьць на Заходнім Палесьсі, у Менску й на ўсход ад сталіцы палякаў вельмі мала.

418 тыс. — лічба афіцыйная, вынікаючая з запісу ў савецкіх пашпартох. У палеміцы ўжываюцца таксама яшчэ дзьве лічбы: польскі бок на Беларусі па міжваеннай традыцыі цьвердзіць, што абсалютна ўсе хрышчаныя ў каталіцтве ёсьць палякі, такім чынам, лічыць сваіх суайчыннікаў на 2,5 млн. чалавек, частка ж беларускіх навукоўцаў, аналізуючы працэсы XVI-XIX стагодзьдзяў, гэтак званую „паланізацыю", налічвае „этнічных" палякаў ня больш 50 тыс. чалавек.

Паводле ж царскага перапісу 1897 году палякаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі налічылі каля 140 тыс.; па некаторых зьвестках, на Заходнюю Беларусь у 1920-30-х гадох перасялілася больш 300 тыс. чалавек з цэнтральнае Польшчы. У савецкай частцы Беларусі ў 1926 годзе , перад калектывізацыяй і высылкамі, лічылася 97,5 тыс. палякаў. У Заходняй Беларусі афіцыйная статыстыка ў 1938 годзе налічвала каля 1,8 млн. палякаў — разам зь Вільняй і Беластокам.

Як бачым, зьвесткі нават спакойнага часу розьняцца між сабой. Тым болей цяжка ацэньваць страты ў ліхую гадзіну. Савецкія крыніцы падаюць, што толькі за 1939-41 гады зь Беларусі было выслана на Сібір больш 600 тыс. палякаў, а яшчэ 274 тыс. чалавек перасяліліся ў Польшчу ў 1944—48 гадох. Прыблізна 150 тыс. чалавек выехалі да Польшчы ў 1956—59 гадох, але й пасьля гэтага лічба палякаў на Беларусі заставалася блізкай 570 тыс. чалавек, і толькі да пачатку 80-х гадоў зьменшылася да 420—30 тысячаў.

Сягоньня абодва бакі, польскі й беларускі, уцягнутыя ў гэтую арыфметыку, пры чым кожны прыводзіць дадзеныя без уліку рэальнай палітычнай сітуацыі ў той час, калі адбываўся той ці іншы перапіс. Расейскія ўлады, царскія й савецкія, гэты працэнт зьбівалі ўніз, польскія — падымалі ўверх. Да таго ж, не ўзнаючы беларусаў як нацыю альбо прызнаючы ім статус „меншага брата", і палякі, і расейцы блыталі веравызнаньне з нацыянальнасьцю: каталік — то паляк, а праваслаўны — значыць, расеец.

Гульня ў арыфметыку адбілася й так бы мовіць на „нацыянальнай сьвядомасьці". Палякі на Гарадзеншчыне любяць пагаварыць пра тое, як іх сілай запісвалі то расейцамі, то беларусамі, лічаць справай гонару, што ў пашпарце ёсьць запіс „паляк" і вельмі падазрона адносяцца да таго, што ў эўрапейскіх пашпартох, на якія зьбіраецца перайсьці Рэспубліка Беларусь, такога запісу няма ўвогуле. Наш савецкі паляк жадае мець паперку зь пячаткай пра тое, што ён паляк...

Таму, каб ня ўлазіць у палеміку, якую лічу бессэнсоўнай, я саступаю жаданьню землякоў-палякаў і прызнаю іх лічбу на Беларусі паводле пашпартнай статыстыкі альбо 418 тысячаў ці чатыры працэнты. Гэта дастаткова мала, каб паўплываць на дзяржаўную палітыку Беларусі, і гэта дастаткова многа, каб справамі польскай меншасьці займалася дзяржава.

Самі палякі сьцьвярджаюць і, хіба, гэта слушна, што не асіміляваліся яны галоўным чынам дзякуючы касьцёлу, які тут традыцыйна лічыцца „польскім". Ёсьць нават амаль што афіцыйны тэрмін — „касьцельны паляк". Гэта чалавек, які слухае ксяндза па-польску, паўтарае за ім „Нех бэньдзе похвалёны Пан Езус Хрыстус!", выходзіць з касьцёла і... далей жыцьцё цячэ нармалёва: у вёсцы па-беларуску, у месцы па-расейску. Гэта даволі ўстойлівы псыхалягічны тып характару, і так сама, як іншаземец ня можа такое дзіва зразумець, паляк ня можа зразумець, а што тут дзіўнага. Адрозьненьне паміж палякам з Польшчы й „касьцельным палякам" прыблізна такое ж, як адрозьненьне паміж беларусам і „тожа беларусам", які „беларус, но большэ любіць рускі язык".

Трэба ўлічваць таксама, што мноства сем'яў за савецкі час утварылася без уліку нацыянальнасьці альбо веры, а цяпер самасьвядомасьць робіцца важнай справай, таму нярэдка можна сустрэць, дапусьцім, паляка Іванова альбо расейца Менджэеўскага. Дарэчы, гэта адна з прычынаў, чаму людзі атоесамліваюць нацыянальнасьць і канфэсыйную прыналежнасьць, а гэту прычыну абсалютна ня ўлічваюць навукоўцы й не заўважаюць як „малаістотную" сталічныя палітыкі.

Ітак, палякі былі абсалютна „касьцельнымі" ажно да перабудовы. У 1988 годзе было ўтворана Таварыства імя А. Міцкевіча пры Беларускім Фондзе Культуры. У сьнежні 1989 году прайшоў устаноўчы зьезд Саюзу Палякаў Беларусі — саюз зарэгістраваны ў чэрвені 1990 году. Арганізацыя палякаў на Беларусі прыпала ў часе на бурныя як для гэтага краю палітычныя працэсы. Пачаткова СПБ стаў на бок камуністаў, дэманструючы, як і належыць ціхай нацменшасьці, лаяльнасьць і адданасьць. Але расчараваньне наступіла вельмі хутка, і ўжо на пачатку 1990 году палякі падпісалі супольную выбарчую плятформу з БНФ і другімі „антыкамуністамі". Прыблізна з гэтага ж часу ў дзейнасьці СПБ пазначыліся дзьве лініі паводзінаў — частка кіраўніцтва старалася, не абвастраючы стасункі з уладай, улічваць рэальную шматпартыйнасьць на Беларусі, другая ж была й хіба застаецца супраць як БНФ, так і беларусаў увогуле. Зрэшты, адрозьненьні былі хіба што ў спосабе мысьленьня, паколькі „супольная дзейнасьць з БНФ" зводзілася да падпісаньня польскай Галоўнай Управай заяваў разам з рэгіянальнымі адзьдзеламі БНФ — на месцах яны выконваліся мінімальна.

Калі польскі рух стаў больш-менш арганізаваным, аказалася, што шмат палякаў ня хочуць мець нічога агульнага з СПБ: адны з той прычыны, што там шмат каго з КГБ, другія, наадварот, што там адны „бунтаўшчыкі", а нам на вёсцы адно працуй... Аказалася таксама, што зь вядомых прычынаў польскай інтэлігенцыі, нават з тэхнічнай, не гаворачы пра гуманітарную адукацыю, практычна няма, а таму ўсю аргработу могуць выконваць толькі некалькі чалавек. Так ці йначай, да СПБ цяпер належыць каля 16 тыс. чалавек, наклад двутыднёвіка СПБ „Глос з-над Немна" дасягнуў 12 тыс. асобнікаў. СПБ не атрымвае датацыі ад уладаў, праўда, нядаўна быў вызвалены ад падаткаў, але „прэзэс" Т. Гавін сьцьвярджае, што камэрцыйныя адзьдзелы СПБ плоцяць такі ж высокі падатак, як звыклыя прыватныя фірмы.

Як вынікае з артыкулаў у „Глосе", усе спадзяваньні цяпер на падрыхтоўку свае маладой інтэлігенцыі ў Польшчы, дзе цяпер вучыцца 150 чалавек. Але ў Саветах як у Саветах! Быў век, быў час, была эпоха — і каб дабіцца прыхільнасьці ці то ўлады, ці багатага дырэктара, ці залатвіць нейкія гаспадарчыя справы, СПБ накіроўваў на вучобу такіх дзетак, якім уся гэтая „польскасьць" так бы мовячы „до нічэго", а якіх больш цікавіць сама Польшча... Ці вернуцца яны на Беларусь і колькі, і што з гэтага будзе, даведаемся неўзабаве. Пакуль што навука йдзе туга, ёсьць некалькі дзесяткаў польскіх класаў, якія трымаюцца часткай на энтузіязме адраджэнцаў, часткай на камандах уладаў.

Апелюючы да ўладаў, палякі, дарэчы, даволі ўдала згулялі на беластоцкіх беларусах, пералічыўшы Гайнаўку, „Ніву", БГКТ, ліцэй,

ці бар „Бістра” не адмовяць абеду (цана 15—30 тыс. зл.) або снедання і вячэры (15—25 тыс. зл.) нават таму турысту, які прыйшоў не ў пару. У сваю чаргу — гуртам можна заказаць нават смажаніну з... зубра.

Белавежскія рэстараны наогул добра падрыхтаваліся да сезона. Аднавілі перш за ўсё свае памяшканні. „Зуброўка” 1 мая здала ў карыстанне элегантную банкетную „паляўнічую залу” — на 40 чалавек. „Іва” прыдбала новую, высокаякасную аўдыёвізуальную апаратуру для канферанцыйнай залы. Хоча таксама купіць сатэлітарную антэну. Абедзве пляцоўкі могуць, па заказу кліентаў, наладжваць дансінгі, дыскатэкі, дастасаваць да яго патрэб час працы, даць скідку на харчаванне. Гэта ўжо бадай Еўропа!

Ад 16 мая г.г. у Белавежы працуе прыватны бар „Кнея”, непадалёку рэстарана „Зуброўка”. У ім месца на 20 чалавек. Пры бары знаходзіцца таксама гасцініца, з 22 начлежнымі месцамі ў шасці пакоях 2-асабовых і па адным 4- і 6-асабовымі. Адно месца каштуе 60 тыс. зл.

А калі ўжо гутарка пра начлежныя дамы і цэны ў іх, то ў „Іве” 2-асабовы пакой з ваннай каштуе 180 тыс. зл., без ванны — 150 тыс. зл. Пакоі 3-асабовыя — адпаведна 225 і 165 тыс. зл., 4-асабовы (без ванны) — 180 тыс. зл. У турысцкім доме ПТТК ёсць пакоі 1- і 2-асабовыя. Адно месца каштуе 70 тыс. зл. У гасцініцы „Зуброўка” пакоі 2-, 3- і 4-асабовыя, па 50 тыс. зл. за месца. У паляўнічым доме пакоі 1-, 2-, 3- і 4-асабовыя. Чужаземцы за месца плоцяць адпаведна — 100, 85, 70 і 60 тыс. зл., польскія грамадзяне 80, 68, 56 і 48 тыс. зл.

Зараз Белавежа распараджаецца 532 месцамі ў рэстаранах і сталовых і 336 — начлежнымі. На яе патрэбы і ўмовы гэтага дастаткова.

З інфармацыйна-турысцкіх выданняў аб Белавежскай пушчы знаходзяцца ў продажы — карта, брашура „Белавежа„ і альбомчык „Белавежскі нацыянальны парк” Ч. Аколава, інфарматар „Белавежская пушча” Э. Бадыды і К. Вольфрама, а таксама альбом М. Шарая, выдадзены ў Беларусі. Не хапае больш абшырнага даведніка, з якім можна было б выбрацца на пушчанскія шляхі. Гітам сезона з'яўляецца магнітафонная касета з галасамі птушак.

**ПЁТР БАЙКО**
**Фота Войцеха Рынажэўкага**



*Трапляючы ў Белавежу, кожны з турыстаў затрымоўваецца пры найстарэйшым у мястэчку помніку старадаўнасці, пастаўленым роўна 240 гадоў назад у памяць буйнага палявання караля Аўгуста III.*
*Фота Войцеха Рынажэўскага.*

радыё, саюзы, партыі і г.д. Гэта паўтаралася так доўга ды з такой крыўдай на Беларусь, якая дае „менш” палякам, чым Польшча беларусам, што нарэшце менскія сувэрэнныя палітыкі перайшлі на прынцып сувязі міждзяржаўных адносінаў з адносінамі дзяржавы да адпаведнай нацыянальнай меншасьці. Здаецца, ужываньне такога прынцыпа для Беларусі нявыгадна, — напрыклад, з тае прычыны, што таго ж захоча Расея, — і таму гэта можна лічыць адзіным сапраўдным посьпехам СПБ.

Важнае месца ў дзейнасьці СПБ займае палеміка ў друку. „Глос” рэгулярна за што-небудзь нападае на „ЛіМ”, які ў сваю чаргу таксама нападае на „Глос”. Неяк я спрабаваў пераканаць суседзяў з СПБ, што палемізаваць ня варта, бо кожная „антыпольская” заява „лімаўцаў” толькі павялічвае колькасьць палякаў і працуе на „польскую справу”. Гэтак сама не паверылі ў Менску, што сягоньня палякі заслабыя ня толькі, каб нечым зашкодзіць „нашаму” адраджэньню, але каб стаць на ногі ўвогуле, прынамней, у бліжэйшыя 15—20 гадоў. Ня ведаю, што думаюць у абодвух выданьнях, але "вострая палеміка" працягваецца. Зрэшты, гэта першае сапраўднае адраджэньне традыцыяў гэтага краю...

Польскія „адраджэнцы” ў штодзённай працы робяць націск на патрыятычнае выхаваньне. Па-за касьцёлам, дзе часам нават самапальныя вершы чытаюць, займаюцца аднаўленьнем польскіх могілак, асабліва з вайны 1939 году, аднаўленьнем крыжоў, працай у Навагарадку на сядзібе А. Міцкевіча і г.д. Настальгічныя ноты асабліва праяўляюцца ў лістах чытачоў і вялікіх гістарычных артыкулах, якія рэгулярна зьмяшчае „Глос”, часам болей паловы нумару адводзіцца гэтай тэме.

Папулярны тры гады таму лёзунг нацыянальна-культурнай аўтаноміі, у тым жа часткова тэрытарыяльнай, цяпер выцеснены фактычна лёзунгам толькі „польскай” школы. На тэрытарыяльную польскую аўтаномію пацягнулі б, і то ў пэрспэктыве, хіба толькі Воранава пад Вільняй ці Сапоцкін пад Гародняй. Два мястэчкі на Беларусь — гэта замала... Да таго ж толькі на размовы пра гэта патрэбная падтрымка „на версе”, а ў парляманьце зь дзесяці палякаў-дэпутаваных з СПБ не супрацоўнічае ніхто. Што праўда, СПБ мае сваіх людзей у рэгіянальных радах, але вельмі мала як на свае патрэбы. Гледзячы ж на мінулую кампанію, калі Т. Гавін не прайшоў у парлямант, бо прайграў выбары ў ... Сапоцкіне, хоць па просьбе БНФ за яго прагаласавалі суседнія беларускія Рацічы, можна меркаваць, што й на будучых выбарах шанцы СПБ мінімальныя, а палітычная сітуацыя палякаў істотна ня зьменіцца.

Рэальна „польскасьць на Усходніх Крэсах квітнее толькі ў касьцёле”, як пісала Данута Бічэль-Загнетава. Таму апошнім часам палякам баліць галава ад дзейнасьці афіцыйна зарэгістраванай Беларускай Каталіцкай Грамады, якая за год апанавала некалькі касьцёлаў у Менску й наваколлі, прыцягнула ў свае шэрэгі ўласных ксяндзоў, а пасьпяхова супрацоўнічае нават з кс. Сьвёнткам, біскупам у Менску, які да нядаўна быў „галоўным” палякам на Беларусі. БКГ дазваляе сабе, напрыклад, на тое, каб на некалькіх аўтобусах зьвязіцца ў Гародню й адправіць у Фарным Касьцёле „сваю” беларускую імшу, альбо арганізаваць на сьвята Божага Цела 5-цітысячнае шэсьце па менскіх вуліцах. У выніку дзейнасьці БКГ у кіраўніцтве СПБ ня вытрымалі нэрвы: палякі накіравалі скаргу на БКГ на імя С. Шушкевіча, пракурора рэспублікі ды... каталіцкіх біскупаў на Беларусі! Пры ўсёй анэкдатычнасьці падбору адрасатаў у заяве-скарзе адчуваецца сапраўдная трывога: калі касьцёл будзе зьбеларушчаны, нам тут канец. У сваіх страхах за касьцёл, на маю думку, палякі перагінаюць, ставячы т о л ь к і на касьцёл ды ператураючы сваю фактычна палітычна-гаспадарчую арганізацыю ў суполку вясковых парафіянаў. З другога боку, пра пэўную разгубленасьць сьведчыць і ўдзел прадстаўнікоў СПБ у нарадзе з чарнасоценцамі са „Славянского Собора” й мітычнымі „яцьвягамі”, гэта значыць, палешукамі зь Піншчыны. Там нават падпісалі заяву, паводле якой на Беларусі павінны быць дзяржаўнымі мовы: беларуская, расейская, польская, яцьвяжская, варажская і г.д.

Пыху й запалу палякам дадае, як можна было чакаць, глыбока засеўшы ў беларускай інтэлігенцыі комплекс мужыка са сваімі мужыцкімі страхамі перад „ясным паньствам”. Менчукі ўпэўненыя, што Польшча ні ў чым не адыйшла ад 1939 году, а менскія аўтарытэты па польскіх справах належаць як правіла да скрайніх нацыяналістычных плыняў у БНФ, нацыянал-дэмакратах ці Грамадзе. Менская аўдыторыя, зноў жа як правіла, ня ўмее ані слова па-польску, ня чытае газэтаў, ня слухае польскае радыё, але пра „польскія справы” ведае больш за гарадзенцаў, і калі ні трапіш у сталічнае мястэчка, там цябе заўсёды вучаць жыць, мауляў, вас, правінцыялаў, хі-ітрыя палякі за нос цягаюць. Пэўным халодным душам быў візіт у "Польшчу прэм'ера В. Кебіча, пэрспэктывы стварэньня ў Гдыні беларускага флёту й г.д., але мужыцкая падазронасьць у беларусах будзе сядзець да канца.

Падводзячы рысу, павінен не забыць яшчэ адзін акцэнт. За апошнюю вайну палякаў паменшала на Беларусі разы ў тры-чатыры, яшчэ больш страты панесьлі палякі зь месцаў, асабліва інтэлігенцыя. Эканамічны й культурны ўзровень палякаў і беларусаў сягоньня роўны, адрозьненьні ў пабыце, мове ці магчымасьці зрабіць кар'еру мінімальныя — сітуацыя выглядае абсалютна па-другому, чым да вайны. Дзякуючы сувэрэнітэту, адабраць які ў бліжэйшы час Расея, здаецца, ня ў сіле, беларусы-каталікі й атэісты з каталіцкіх сем'яў, якія ў СССР былі б „польскім рэзэрвам”, цяпер такім рэзэрвам ня будуць, бо ня маюць у тым патрэбы. Нармалізацыя адносінаў з Польшчай, якая выкіне зь мяжы калючы дрот, пазбавіць польскіх лідэраў на Беларусі апошняй прывілеі — на больш вольны выезд „па лініі СПБ”. Інтарэсы касьцёлу ёсьць інтарэсы касьцёлу — у залежнасьці ад сітуацыі той можа падтрымваць польскі патрыятызм, а можа й наадварот. У гэтай сітуацыі палякам на Беларусі патрэбная яркая рамантычная ідэя, нешта накшталт запальнай працы Лелевеля й Міцкевіча паўтара стагодзьдзя таму. Але хто ж яе запаліць...

А ўвогуле, часам смутна, што мы, маленькія людзі, гэтак „патрэбныя” людзям вялікім — што беластоцкія беларусы Менску, што гарадзенскія палякі Варшаве.

То што ж мы не падзялілі між сабой?

**Алесь ЧОБАТ**

Гароднія, 1992 год, ліпень

(Друкуецца з захаваннем правапісу аўтара).

## ГАРЫЦЬ ЛЕС

*працяг са стар. 1*

скай камендатуры пажарнай стражы. Але і так сітуацыя ў нас лепшая, чымсьці ў некаторых іншых рэгіёнах краіны. Ёсць жа ваяводствы, дзе — з прычыны засухі — уведзена палажэнне аб стыхійнай бядзе. „У нас такога, прынамсі з пункту гледжання пажарнай бяспекі, — кажа Ян Паплаўскі, — рабіць не трэба. Пакуль што.”

**ак**

# А Ў КУПАЛЬСКУЮ НОЧ...

А ў Купалле, на Яна... - гучала ў песні на сваце ў Белавежы, хаця якраз гэта ноч была напярэдадні Пятра. Але тут не было парушэння традыцыі - «Пятрок» працягваў купальскія гулянні, моладзь наладжвала карагоды, раскладвала вогнішчы.

Купалле ў Белавежы штогод прыцягвае пару тысяч людзей, ахвотных паслухаць песні, пагуляць, пацешыцца, спаткацца з людзьмі, - і моладзі, і старэйшых, і мясцовых, і гасцей з Беласточчыны, турыстаў з Польшчы і іншых краін, якія наведваюць Белавежу. На гэты раз Купалле арганізавалася ноччу з 11 на 12 ліпеня Беларускім грамадска-культурным таварыствам ды гмінными ўладамі Белавежы і галоўным спонсарам - Міністэрствам культуры Польшчы. Дадаў яму бляску гасцінны ўдзел міністраў Рэспублікі Беларусь - міністра інфармацыі Анатоля Бутэвіча і міністра замежных спраў Пятра Краўчанкі. Завітаў на свята таксама шаноўны Ян Гавенчык з Аўстраліі, які ўжо 50 гадоў за мяжой, але які заўсёды ёсць беларусам і гэтым ганарыцца.

Афіцыйна адчыніў святкаванне Купалля Аляксандр Баршчэўскі, старшыня БГКТ. Прывітаў ён усіх артыстаў, гасцей і белавежан. Сказаў:

«Прыйшлі мы сюды, каб быць сведкамі трох фактаў. Першы - гэта песня, другі - танец, трэці - каханне. Песня будзе тут, танцы - у Старой Белавежы вакол вогнішчаў, а каханне няхай будзе ва ўсёй Белавежскай пушчы. Калі камусьці з вас, нейкай пары, якая знойдзе сваё шчасце, не хопіць месца ў польскай частцы пушчы, і вырашыць рэалізаваць сваю палкасць, сваю страсць у беларускай частцы, то міністр замежных спраў Беларусі сказаў, што кожны, хто парушыць мяжу з мэтай кахання, сёння не будзе караны!

Свята Купалы было заўсёды святам згоды і міру. І таму мы працягваем руку да ўсіх народаў свету. Жадаем шчасця Рэспубліцы Беларусь. Якая ж радасць, што мы спаткаліся ў Белавежы, у гэтым закутку свету, які так дарагі сэрцу Бога і людзям добрай волі!.."

Госць свята, спадар Краўчанка, якраз вярнуўся з Хельсінкі, з II еўрапейскай нарады.

«Учора ў Хельсінкі, - гаварыў ён, - кіраўнікі міністэрстваў замежных спраў з 52 краін Еўропы і свету падпісалі новы Хельсінскі заключны акт. Гэты акт будзе даваць магчымасць усім нам сустракацца, сябраваць, дапамагаць адзін аднаму. Я спадзяюся, што ў будучыні мяжа стане іншай. Яна не будзе дзяліць братоў і сясцёр ні па той, ні па гэты бок. Мяжа будзе паняццем умоўным. Спадзяюся, што Беларусь і Польшча пакажуць пэўны ўзор такіх цывілізаваных адносін.

Я хацеў бы сёння пажадаць моладзі знайсці сваіх каханых, сваіх любых, самых галоўных у жыцці. Людзям больш сталага ўзросту - успомніць маладосць. Жадаю, каб гэтае свята было святам надзеі для кожнага свядомага беларуса. Сённяшняе свята адзначаецца ў 110-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы. І ўспомнім словы Максіма Багдановіча, які ў час цяжкі сказаў беларускай грамадзе: «Брацця! Ці зможам грамадскае гора? Брацця! Ці хопіць нам сілы?»

Зможам, калі будзем адчуваць сябе народам! Зможам, калі пераадолеем чарнобыльскую трагедыю! Зможам, калі мяжа не будзе нас разрываць на часткі! Зможам, калі будзе гучаць беларуская мова і беларуская песня! Зможам, калі Купалле будзе паўтарацца з году ў год, са стагоддзя ў стагоддзе!.. Няхай жыве Беларусь! Няхай векі вечныя жыве Беларусь!"

Аляксандр Баршчэўскі ўспомніў, як на мінулагоднюю купальскую сцэну адзін чалавек з публікі кінуў камень:

«Не ведаю, ці сёння ёсць тут гэты чалавек, але няхай ведае, што каменем нельга забіць песню! Ані молатам, ані куляй, ані бомбай, таму што песня мае такую духоўную сілу, якую не можа перамагчы фізічная сіла! Наш народ выстаяў на працягу стагоддзяў, бо бараніла яго песня, а народ бараніў песню!»

...Песням не было канца. Пасля доўгага канцэрта 18 калектываў (8 - з Беларусі) ад 21 да амаль 2 гадзіны ночы ўсе падаліся ва ўрочышча Старая Белавежа, дзе ўспыхнулі вогнішчы, пачаліся гульні, пільныя пошукі папараці-кветкі, кветкі шчасця... І спадар Пятро Кузьміч пусціўся ў скокі з паняй Валянцінай і іншымі купальскімі прыгажунямі.

Калі камусьці не пашанцавала на гэты раз знайсці сваю кветку шчасця, прыязджайце ў Белавежу ў наступным годзе!

**МІРА ЛУКША**



*У вясёлай кампаніі міністр Пётр Краўчанка (у цэнтры).*



*Ночка купальская таямнічая...*



*Найпрыгажэйшы вянок у нас! (Бельск)*



*З берага Нараўкі добра відна, як вяночкі паплылі.*



*„Палешукі."*
*фота Міры Лукшы*





*Не знайшоў я сёння папараць-кветкі!.. („Крынічка" з Кобрына).*



*Цяпер – „Знаходка" з вёскі Тышкавічы Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці.*



*Купалле ў Белавежы, 1992г.*

# ЦІ ЎРЭШЦЕ БУДЗЕ АБМЕН ІНФАРМАЦЫЯЙ?

*працяг са стар. 1*

цоўніцтва і дапамогі, якія сёння можа прапанаваць нам беларуская дзяржава. Няма ў нас наладжанай сеткі распаўсюджвання беларускага друкаванага слова. Зразумела, попыт на тое слова не такі, каб можна было думаць аб камерцыйнай выгадзе ад яго распаўсюджвання. Але рэч тут не ў камерцыі — у Беларусі добра ведаюць, што калі да прапаганды беларускага трэба даплочваць у сябе, то тым больш нельга спадзявацца, што прыбытак можна знайсці тут у нас. Урад Беларусі ў змозе забяспечыць Беласточчыну практычна ўсімі выданнямі, якія выходзяць на беларускай мове. Але каму іх перадаваць? Тое, што можа трапіць, прыкладам, у БГКТ, у найлепшым выпадку апынецца ў школьных бібліятэках. Уся астатняя, так сказаць, „няшкольная грамадскасць" будзе па-за абсягам слова з Бацькаўшчыны. Няма ў нас хоць бы аднаго агульнадаступнага пункта (кіёска, невялічкай кнігарні), дзе можна было б набыць беларускую газету ці кніжку, касету ці кружэлку з запісам беларускай песні. Памяшканне ГП БГКТ апошнім часам людзі сталі абмінаць; нават раней, калі былі большыя матэрыяльныя магчымасці прамоцыі беларушчыны, БГКТ не надта добра з гэтым спраўлялася, а пры цяперашніх фінансавых клопатах арганізацыі будучыня выглядае зусім панура.

На канец пра справу, якая найбольш хвалюе рэдакцыю „Нівы" — пра высылку газеты на Беларусь. Мінула ўжо звыш двух гадоў, як тая высылка абарвалася. Эканамічныя абставіны ў Польшчы і Беларусі такія, што наша рэдакцыя (якая бадай ці зьвяжа сёлета фінансавы канец з канцом) ад гэтай высылкі прыбытку мець не будзе. Ды справа тут не ў тым, каб зарабіць, а каб хоць часткова рэфундаваць сабе кошт таго тыражу „Нівы", які пойдзе на Беларусь. Грашовы разлік не бярэцца пад увагу — рубель у нас абясцэнены ажно да абсурду. Патрэбны абмен — тавар за тавар, прыкладам, друкарская фарба ці папера за „Ніву" на Беларусь. Як паказвае папярэдні вопыт, цяжкасці могуць быць (перасланыя на адрас БГКТ 9 тон паперы, як дапамога беларускага ўрада для выдавецкай справы беларусаў на Беласточчыне, ужо 2 гады адлежваюцца недзе на складзе, і ніхто не ведае, што з гэтым падарункам зрабіць). Інакш кажучы, пры ўсім нашым намаганні „рабіць беларускую справу" бракуе ўсім нам эканамічнай базы і звычайнага спрыту ці ўвішнасці. Журналісту, які рыхтуе тэксты і рупіцца пра своечасовы выпуск газеты, папросту не стае часу, каб займацца гандлёвым бокам цэлага выдавецкага мерапрыемства. А тыя, якія маглі б гэтым займацца з увагі на свой статус штатных працаўнікоў беларускага руху — альбо не ўмеюць гэтага рабіць, альбо не маюць ніякіх указанняў ад свайго кіраўніцтва. І ўсютка памалюсеньку скочваецца ў безнадзейную яму. Высылка „Нівы" ў Беларусь можа наладзіцца. Міністры А. Бутэвіч і І. Карэнда абяцалі тут дапамогу. Слова застаецца як бы за намі— ці зможам мы арганізаваць усё са свайго боку? Праграмная рада тыднёвіка „Нівы", якая афармляе сабе права на выдаванне газеты, падпіша ў бліжэйшым часе дамову з беларускім бокам наконт пастаўкі „Нівы" ў Рэспубліку Беларусь. Хутчэй за ўсё Праграмнай радзе давядзецца ўзяць на сябе і клопат адваротны — прыняць абавязкі атрымальніка і кальпарцёра тых беларускіх выданняў, якія паставіць нам беларускі бок. Што ж, працы прыбудзе сама менш удвая.

**ЯН МАКСІМЮК**
**Фота аўтара**

# ШТО Ў НАС, У ГДАНЬСКУ

Камерцыялізацыя культуры закранула і нас тут, у Гданьску. 27 чэрвеня г.г. пры дапамозе Аляксандра Іваноўскага, які прыехаў да нас на бэгэкатоўскім мікрааўтобусе „Ныса", перавезлі мы маёмасць Гданьскага аддзела БГКТ з Доўгага Таргу на вуліцу Альжбятанскую 10/11, у часовую сядзібу. Цяпер мы апынуліся ў двух невялічкіх пакойчыках — усяго 23 квадратныя метры.

Цвёрдая рэчаіснасць не дазваляе нават на хвіліну задумы над мінулым гданьскага беларуцскага клуба. З ім звязаны ўспаміны аб радасным і сумным. Жыццё ж нясе з сабою розныя сітуацыі, і, як кажуць у народзе, раз бываеш на кані, іншы раз пад канём. Галоўнае — не здавацца.

У добрых сямідзесятых гадах клуб прыцягваў усіх беларусаў, якія адчувалі сябе адзінокімі, якія шукалі кантактаў з такімі ж, як і яны, выхадцамі з беларускіх вёсак Беласточчыны. З гадамі прыжываліся яны да гданьскай рэчаіснасці, укараняліся. Калі дзеці першых „эмігрантаў" пачалі апалячвацца, клуб сталі наведваць адзінкі, свядомыя сваёй нацыянальнасці.

Доўгі Тарг — цудоўнае месца, самая сярэдзіна Гданьска, яе сэрца. І ў такім месцы знаходзіўся беларускі астравок, ад некалькіх гадоў з бел-чырвона-белым сцягам, які дванццаць пятага сакавіка кожнага года — у дзень адраджэння Беларусі — даваў знаць, што беларусы не загінулі. Шкада, што з-за фінансавых прычын трэба было звольніць такое памяшканне.

Адроджаная Беларусь пакуль што не цікавіцца такімі маленькімі астраўкамі беларушчыны, як у Гданьску. На маю думку, павінна яна праяўляць такую цікаўнасць, бо без яе падтрымкі гэтыя астравы проста загінуць. Нельга ўсе справы пакідаць на выключнае вырашэнне прыхільнікаў грамадскай дзейнасці на беларускай ніве. Ім таксама патрэбна элементарная матэрыяльная дапамога.

**Міхась Куптэль,**
**Сопат**

# АБ КАРЭННЫХ НАРОДАХ І МЯСЦОВЫХ АБШЧЫНАХ

**На сустрэчы прадстаўнікоў беларускіх асяроддзяў са старшынёю Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславам Шушкевічам, якая адбылася 26 чэрвеня г.г. у Беластоку, міністр замежных спраў РБ Пётр Краўчанка звярнуў увагу на важнасць пастановы „Аб прызнанні і ўмацаванні ролі карэнных народаў і мясцовых абшчын", якая была нядаўна прынята Канферэнцыяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па акружаючым асяроддзі і развіцці ў Рыо-дэ-Жанейра. Гэты дакумент можа стаць важным фактарам у вырашэнні праблем нацыянальных меншасцей. Чытачам прапануем поўны тэкст гэтай пастановы.**

## ПАРАДАК ДНЯ НА XXI СТАГОДДЗЕ

Раздзел III. Умацаванне ролі асноўных груп насялення.

**26. Прызнанне і ўмацаванне ролі карэнных народаў і мясцовых абшчын.**

### ПРАГРАМНАЯ СФЕРА
### Аснова для дзейнасці

26.1. Для карэнных народаў і мясцовых абшчын характэрна гістарычная прывязанасць да сваіх зямель; як правіла, іх прадстаўнікі з'яўляюцца патомкамі спрадвечных жыхароў такіх зямель. У кантэксце гэтага раздзела паняцце „землі" ахоплівае таксама акружаючае асяроддзе тэрыторый, на якіх традыцыйна пражываюць адпаведныя народы. Карэнныя народы і мясцовыя абшчыны складаюць істотны працэнт агульнага насялення планеты. На працягу многіх гадоў фарміраваліся і перадаваліся з пакалення ў пакаленне цэласныя традыцыйныя навуковыя ўяўленні аб іх землях, прыродных рэсурсах і акружаючым асяроддзі. Карэнныя народы і мясцовыя абшчыны павінны ў поўнай меры карыстацца правамі чалавека і асноўнымі свабодамі, не сутыкаючыся пры гэтым з якімі-небудзь перашкодамі або дыскрымінацыяй. На жаль, пад уплывам чыннікаў эканамічнага, сацыяльнага і гістарычнага характару складваецца тэндэнцыя да абмежавання магчымасцяў іх паўнацэннага ўдзелу ў дзейнасці па забеспячэнні ўстойлівага развіцця на ўласных землях. Беручы пад увагу ўзаемасувязь паміж станам прыроднага асяроддзя і ўстойлівым развіццём і культурным, сацыяльным, эканамічным і фізічным дабрабытам карэнных народаў, у рамках нацыянальных і міжнародных намаганняў па забеспячэнні экалагічна бяспечнага і ўстойлівага развіцця, неабходна ўдзяляць належную ўвагу і садзейнічаць павышэнню ролі карэнных народаў і мясцовых абшчын, а таксама прызнаваць і ўмацоўваць гэту ролю.

26.2. Некаторыя з заданняў, вырашэнню якіх прысвячаюцца мэты і мерапрыемствы дадзенай праграмнай сферы, ужо выкладзены ў такіх міжнародна-праўавых дакументах, як Канвенцыя аб карэнных народах і плямёнах (н-р 169) МАП, і ўключаюцца ў праект усеагульнай дэкларацыі аб правах карэнных народаў, які рыхтуецца Рабочай групай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па карэнным насяленні. Правядзенне Міжнароднага года карэнных народаў свету (1993 год), аб'яўленага Генеральнай Асамблеяй у яе рэзалюцыі 45/164 ад 18 снежня 1990 года, прадстаўляе своечасовую магчымасць для далейшай мабілізацыі міжнароднай тэхнічнай і фінансавай дапамогі.

**Мэты**

26.3. Урадам пры ўсебаковым супрацоўніцтве з карэннымі народамі і, дзе гэта з'яўляецца мэтазгодным, міжурадавымі арганізацыямі трэба накіроўваць свае намаганні на дасягненне наступных мэт:

а/ пакласці пачатак працэсу павышэння ролі карэнных народаў шляхам ажыццяўлення шэрагу мер, уключаючы

I/ прыняццё або ўмацаванне адпаведнай палітыкі і/або прававых дакументаў на нацыянальным узроўні;

II/ прызнанне неабходнасці аховы зямель карэнных народаў ад відаў дзейнасці, якія з'яўляюцца экалагічна небяспечнымі або, на думку закранутых карэнных народаў, недапушчальнымі ў сацыяльным і культурным плане;

III/ прызнанне важнасці іх каштоўнасцей, традыцыйных ведаў і метадаў рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў у мэтах садзейнічання забеспячэнню экалагічна бяспечнага і ўстойлівага развіцця;

IV/ прызнанне таго, што традыцыйная і простая залежнасць ад аднаўленых рэсурсаў, уключаючы атрыманне ўстойлівых ураджаяў, паранейшаму захоўвае сваю істотную значнасць дзеля забеспячэння культурнага, эканамічнага і фізічнага дабрабыту карэнных народаў і мясцовых абшчын;

V/ стварэнне і ўмацаванне нацыянальных механізмаў па ўрэгуляванні спрэчак у сувязі з засяленнем зямель і пытаннямі, якія датычаць рацыянальнага выкарыстання рэсурсаў;

VI/ падтрымка альтэрнатыўных экалагічна абгрунтаваных метадаў вытворчасці з мэтай забяспечыць многаварыянтнасць выбару спосабаў павышэння якасці іх жыцця, з тым каб яны атрымалі магчымасць эфектыўна ўдзельнічаць у забеспячэнні ўстойлівага развіцця;

VII/ актывізацыя дзейнасці па ўмацаванні патэнцыялу мясцовых абшчын на аснове асваення традыцыйных ведаў, уяўленняў і метадаў рацыянальнага выкарыстання рэсурсаў, а таксама абмен імі, з тым, каб забяспечыць устойлівае развіццё гэтых абшчын;

b/ стварыць, па меры магчымасці, механізмы з мэтай умацавання актыўнага ўдзелу карэнных народаў і мясцовых абшчын у распрацоўцы на нацыянальным узроўні палітыкі, законаў і праграм, звязаных з рацыянальным выкарыстаннем прыродных рэсурсаў і іншымі працэсамі ў сферы развіцця, якія могуць аказваць на іх уплыў, і забяспечнне больш актыўнага выключэння імі прапаноў, якія датычацца такой палітыкі і праграм;

с/ уцягваць карэнныя народы і мясцовыя абшчыны ў працэс ажыццяўлення стратэгіі ў сферы рацыянальнага выкарыстання і захавання прыродных рэсурсаў і іншых адпаведных праграм, якія рэалізуюцца ў мэтах садзейнічання ажыццяўленню стратэгій забеспячэння ўстойлівага развіцця, у прыватнасці стратэгій, прапанаваных у іншых праграмных сферах Парадку дня на XXI стагоддзе.

**Дзейнасць**

26.4. Некаторыя карэнныя народы і мясцовыя абшчыны, магчыма, адчуваюць патрэбу ва ўмацаванні, у адпаведнасці з нацыянальным заканадаўствам, кантролю над уласнымі землямі, у забеспячэнні больш самастойнага выкарыстання сваіх рэсурсаў, расшырэнні ўдзелу ў прыняцці закранаючых іх рашэнняў у сферы развіцця, уключаючы, дзе гэта бачыцца мэтазгодным, удзел у стварэнні ахоўваемых тэрыторый або кіраванні імі. Ніжэй прыводзіцца шэраг канкрэтных мер, якія маглі б прымаць урады:

а/ разгледзець пытанне аб ратыфікацыі і прымяненні на практыцы існуючых міжнародных канвенцый, якія датычацца карэнных народаў і мясцовых абшчын (там, дзе гэта яшчэ не зроблена), і падтрымаць прыняццё Генеральнай Асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый дэкларацыі аб правах карэнных народаў;

b/ прыняць або ўмацаваць адпаведную палітыку і/або прававыя дакументы, якія забяспечвалі б абарону інтэлектуальнай і культурнай уласнасці карэнных народаў і іх права на захаванне заснаваных на мясцовых звычаях і складўшыхся ў галіне кіравання сістэм і парадкаў.

26.5. Арганізацыям сістэмы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і іншым міжнародным арганізацыям, якія займаюцца пытаннямі развіцця і фінансавання, а таксама ўрадам трэба, абапіраючыся на актыўны ўдзел карэнных народаў і мясцовых абшчын, у выпадку неабходнасці, прымаць наступныя меры па забеспячэнні, у прыватнасці, падліку каштоўнасцей, поглядаў і ведаў карэнных народаў, улічваючы ўнікальны ўклад жаночай часткі карэнных насельніцтва, у дзейнасці па рацыянальным выкарыстанні прыродных рэсурсаў, а таксама ў рамках здольных уплываць на становішча гэтых народаў палітыкі і праграм у іншых сферах:

а/ назначыць у кожнай міжнароднай арганізацыі супрацоўніка па каардынацыі і забяспечыць правядзенне штогадовых міжарганізацыйных каардынацыйных нарад у кансультацыі з урадамі і арганізацыямі карэннага насельніцтва, па меры неабходнасці, і распрацаваць для ўстаноў, якія займаюцца апературнай дзейнасцю, як унутраную, так і міжустаноўскую працэдуру аказання садзейнічання ўрадам у забеспячэнні ўзгодненага і скаардынаванага ўліку поглядаў карэнных народаў пры распрацоўцы і ажыццяўленні адпаведнай палітыкі і праграм. Згодна гэтай працэдуры карэнныя народы і мясцовыя абшчыны павінны атрымоўваць інфармацыю і прыцягвацца да кансультацый, а таксама мець доступ да ўдзелу ў выпрацоўцы рашэнняў на нацыянальным узроўні, асабліва ў тым, што датычыцца сумесных намаганняў у рэгіянальным і міжнародным маштабе. Апрача таго, неабходна, каб у гэтай палітыцы і праграмах знаходзілі ўсебаковае адлюстраванне стратэгіі, заснаваныя на ініцыятывах карэннага насельніцтва;

b/ даваць тэхнічную і фінансавую дапамогу на ажыццяўленне праграмы па ўмацаванні патэнцыялу ў мэтах аказання садзейнічання ў дасягненні ўстойлівага самастойнага развіцця карэнных народаў і мясцовых абшчын;

с/ умацоўваць праграмы ў навукова-даследчых галінах і ў галіне адукацыі, накіраваныя на:

I/ забеспячэнне больш глыбокага разумення ведаў і вопыту карэнных народаў у сферы аховы і рацыянальнага выкарыстання навакольнага асяроддзя і іх прымянення для вырашэння сучасных задач развіцця;

II/ павышэнне эфектыўнасці прымяняемых карэннымі народамі сістэм выкарыстання прыродных рэсурсаў, напрыклад, шляхам укаранення і распаўсюджвання адпаведных новых тэхналогій;

d/ супрацоўнічаць з карэннымі народамі і мясцовымі абшчынамі ў ажыццяўленні стратэгій у галіне рацыянальнага выкарыстання і захавання прыродных рэсурсаў (напрыклад, такіх, якія могуць быць распрацаваны ў рамках адпаведных праектаў, што фінансуюцца ў рамках Глабальнага экалагічнага фонду і Плана дзеянняў у галіне трапічнага лесаводства) і ў іншых праграмных сферах Парадку дня на XXI стагоддзе, уключаючы праграмы па збіранні, аналізу і выкарыстанні дадзеных і іншай інфармацыі ў мэтах садзейнічання рэалізацыі праектаў па забеспячэнні ўстойлівага развіцця.

26.6. Урадам на аснове ўсебаковага супрацоўніцтва з карэннымі народамі і мясцовымі абшчынамі, па меры неабходнасці, трэба:

а/ ствараць або ўмацоўваць нацыянальныя механізмы кансультацый з карэннымі народамі і мясцовымі абшчынамі з мэтай уліку іх патрэб, а таксама іх каштоўнасцей і традыцыйных і іншых ведаў і практыкі ў нацыянальнай палітыцы і праграмах у галіне рацыянальнага выкарыстання і аховы прыродных рэсурсаў і іншых закранаючых іх праграмах у сферы развіцця;

b/ супрацоўнічаць, па меры неабходнасці, на рэгіянальным узроўні ў рашэнні агульных праблем карэнных народаў з мэтай забеспячэння прызнання і ўмацавання іх ролі ў забеспячэнні ўстойлівага развіцця.

**Сродкі ажыццяўлення**

**а/ Фінансаванне і ацэнка расходаў**

26.7. Для ажыццяўлення вышэй успомненай дзейнасці арганізацыям сістэмы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый патрэба каля 3 млн. дол. ЗША у год на мэты ўмацаваўння арганізацыйнай структуры./

**b/ Прававаяя і адміністрацыйная сістэма****

26.8 Урадам краін у супрацоўніцтве з адпаведнымі карэннымі народамі трэба забяспечыць замацаванне ў рамках нацыянальных прававых сістэм праў і абавязкаў карэнных народаў і мясцовых абшчын, уключаючы прызнанне неабходнасці ахоўваць іх тэрыторыі ад уздзеяння няўстойлівага і не адпавядаючага іх інтарэсам развіцця і гарантаваць ім доступ да належных ім зямель і прыродных рэсурсаў, а таксама кантроль над імі. Развіваючымся краінам, магчыма, патрэбна тэхнічная дапамога для ажыццяўлення гэтай дзейнасці, у прыватнасці ў правядзенні дэмаркацыі зямель./

**с/ Развіццё людскіх рэсурсаў****

26.9 Міжнародным установам па пытаннях развіцця і ўрадам трэба выдзяляць дадатковыя рэсурсы на адукацыю і прафесійную падрыхтоўку прадстаўнікоў карэнных народаў і мясцовых абшчын з мэтай расшырэння іх магчымасцей па дасягненні ўстойлівага развіцця, а таксама забеспячэння ўкладу ў працэс дасягнення ўстойлівага развіцця на справядлівай аснове на нацыянальным узроўні і ўдзелу ў ім. Асаблівую ўвагу трэба прысвячаць умацаванню ролі жанчын-прадстаўніц карэнных народаў./

---

*У дадзеным пункце выкладаецца інфармацыя, якая датычыць сродкаў ажыццяўлення, улічваючы каштарыс расходаў, які прадстаўляе сабой арыенціровачныя ацэнкі Сакратарыята, прадстаўленыя ў адпаведнасці з рашэннем 3/2 Падрыхтоўчага камітэта. Дадзены пункт зачынены ў квадратныя дужкі таму, што яго тэкст не ўзгадняўся.

**Фармулёўкі пунктаў у раздзелах аб сродках ажыццяўлення не ўзгадняліся. Ёсць спадзяванні, што іх статус будзе ўрэгуляваны на пачатковым этапе працы Канферэнцыі.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# КУЛЬТ ВАДЫ Ў БЕЛАРУСАЎ

Нашы продкі здаўна пакланяліся рэкам, азёрам, крыніцам і студням, як гаворыцца ў летапісах, «...славяне вероваша кладзеземь и рекам...». Знаходкі старажытных ралаў у балотах - сведкі ахвярапрынашэнняў магутным сілам вады пасля вясенняй пахаты, каб атрымаць высокі ўраджай. Вадзе ахвяравалі таксама каменныя сякеры, ежу, кветкі. Звычай кідаць у ваду манеты - адгалоскі былых ахвярапрынашэнняў вадаёмам.

Часта сустракаецца назва возера Святое. Як правіла, на берагах такіх азёр археолагі знаходзяць рэшткі старажытных паселішчаў, язычніцкія капішчы або культавыя валуны. Шырокавядома племянное капішча радзімічаў каля вёскі Хадосавічы Рагачоўскага раёна на беразе возера Святое.

У наш час яшчэ шырокай папулярнасцю карыстаюцца святыя крыніцы і студні, вада з якіх лічыцца лячэбнай. Часта побач з крыніцамі ўшаноўваюцца таксама валуны і дубы. У такіх месцах раней ставіліся крыжы або ўзводзіліся капліцы. На царкоўныя святы сюды ішлі людзі і неслі падарункі. Напрыклад, да студні каля вёскі Ізбішча Лагойскага раёна збіраліся на Тройцу, каля Маркава кляштара паблізу Віцебска - перад святам апосталаў Пятра і Паўла, на Юр'евай Горцы каля Віцебска - у дні святых Барыса і Глеба і г.д. Некаторыя студні і крыніцы вядомы пад назвамі Пятніцкая студня, Божы калодзеж, Гарадзецкі калодзеж, Князь-калодзеж, Турэцкая студня, крыніцы Здравец, Чорны Яр і іншымі. (Напішыце ў «Зорку» пра вядомыя вам святыя вадаёмы на Беласточчыне).

Шмат існуе паданняў аб вадаёмах. Паблізу вёскі Навасады (Дзяржынскі раён), па паданню, у час навалы шведаў княжна скінула ў студню куфар з грашамі, а потым кінулася туды і сама, каб не трапіць у рукі ворагаў. У Тураве расказваюць, што студня там выкапана князем Турам і мае тры дны - залатое, сярэбранае і меднае. Калі правярэцца меднае, вада затопіць Тураў, сярэбранае - Тураўшчыну, а залатое - затопіцца ўся зямля.

**Л. ДУЧЫЦ**





*а Купаллі ў Белавежы.* **Фота М. Лукшы**

# ВЯЛІКАЯ СЯМ'Я

Адразу за вёскай пачынаўся выган. Для дзяцей тут было раздолле. Больш за ўсё іх вабіў свежы зруб лазні, які вырас за апошнія два дні. Ад яго прыемна пахла смалою. Каля зруба ляжала бярвенне, валялася мноства круглячкоў, дошак, трэсак і пяшчотна-ружовых, як мыльная пена, стружак.

- Давайце гуляць у дочкі-мацеры, - прапанавала тоўсценькая і румяная, як піражок, Люда.

- Давайце! - падтрымала яе Оля.

Оля была ў доўгім, як паліто, світэры, які адзела ўпотайкі ад сястры. У ім Оля адчувала сябе зусім дарослай.

- Я буду маці, - важна заявіла яна.

- Не, я! Я першая сказала, што будзем гуляць у дочкі-мацеры, - запярэчыла Люда.

- Добра. Тады ў нас будзе дзве сям'і. Мы з Людай будзем мамамі, - абвясціла Оля. - Хто будзе жыць са мной?

- Я!.. Я! - радасна заскакалі дзяўчынкі-блізняткі з аднолькавымі зайчыкамі на кішэнях паліто.

- А нам мозна з табой зыць? - спытаўся ў Люды маленькі хлопчык, туляючыся да сястры.

- Яшчэ саплівых мне не хапала, - пагардліва адказала Люда.

- Я не саплівы, - пакрыўджана шмаргануў носам хлопчык і пайшоў з сястрой жыць да Олі.

- А мяне возьмеш? - з надзеяй паглядзела ў вочы Людзе такая ж тоўсценькая, як і яна, дзяўчынка.

- Цябе? Яшчэ чаго! - насмешліва фыркнула Люда. - Хто ўчора мне цукерку пашкадаваў? Вось і жыві цяпер з кім хочаш.

- А ў мяне ж была ўсяго адна цукерка, - разгублена апраўдвалася дзяўчынка.

- Не прасі яе, - умяшалася Оля. - Ты таксама будзеш жыць са мной.

- А са мной будзе Наташка, - паказала Люда на чысценькую дзяўчынку з сінімі банцікамі ў валасах. - Хочаш

*Працяг на стар. 10*

ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

АВЯР'ЯН ДЗЕРУЖЫНСКІ

# БАРСУК І ЛІСА

**Казка**

Бег барсук
Па лесе,
Бачыць - каўбаса,
Толькі нахіліўся -
Тут як тут
Ліса.
- Дай ты мне
Каўбаску,
Добры барсучок,
А я табе курку
Прынясу,
Браток.
- Штосьці ты
Хітрыеш, -
Ён сказаў
Лісе, -
Напалам падзелім,
Будзе пакрысе.
- А навошта гэта
Напалам дзяліць?..
Вось хто
Азярыну
Першым
Абяжыць,
Той з нас
І каўбаску
Будзе цалкам мець.
- Дык які ж бягун я?
Сорам і глядзець,
Ведаеш ты,
Ліска,
І сама,
Дальбог...

Рыжая ж пабегла
Хутка,
З усіх ног.
Паглядзеў з усмешкай
На лісу
Барсук,
І ў той час да рэшты
З'еў ён
Каўбасу.
Ліска як прыбегла -
Каўбасы няма.
- З'еў,
Барсук,
Прызнайся?!
- Не крычы
Дарма.
- Я хутчэй прабегла,
Мая ж каўбаса!
- Вось таму
І з'еў я, -
Не хітруй, ліса.



# ВЯЛІКАЯ СЯМ'Я

*Працяг са стар. 9*

быць маёй дачкой? - спыталася яна ў дзяўчынкі.

Тая згодна кіўнула галавой і пайшла ўслед за Людай.

- Ой, якая вялікая ў мяне сям'я! - усплеснула рукамі Оля. - Наша хата будзе вось тут, - паказала яна на вугал зруба.

- А наша вось тут , - паказала на бярвенне Люда.

І дзеці пачалі абжываць свае хаты. Яны, як мурашкі, разбегліся ў розныя бакі і праз хвіліну цягнулі хто абрэзак дошкі, хто цаглінy, хто стружкі.

- Гэта будзе ложак, - тлумачыла Оля, падкладваючы пад дошку кавалкі цэглы.

- А гэта люстэрка, - паклала на дошку асколачак шкла тоўсценькая дзяўчынка.

Маленькі хлопчык з сястрой прыкацілі круглы цурбан. Атрымаўся стол, зусім як сапраўдны.

У другой сям'і таксама не сядзелі склаўшы рукі. Дзяўчынка з сінімі банцікамі знайшла дзесьці ржавы абруч ад бочкі.

- Што за дзіця! Валачэ ўсякую дрэнь у хату, - накінулася на яе мама-Люда і шпурнула абруч убок.

А маленькі хлопчык з суседняй сям'і падняў абруч і,ззяючы ад радасці, крыкнуў:

- У нас будзе веласіпед!

Людзе гэта не спадабалася. Яна ўчапілася за абруч, з усяе сілы пацягнула да сябе. Хлопчык паваліўся, але абруча з рук не выпусціў.

- Аддай! Гэта мой абруч! Я першая яго знайшла.

- Як табе не сорамна крыўдзіць маленькіх! - заступілася мама-Оля і нахілілася да хлопчыка: - Аддай ёй абруч.

Люда доўга не магла прыдумаць, што можна зрабіць з абруча. Потым павесіла яго на жардзіну і сказала:

- Гэта будзе наш тэлевізар.

- А круглых тэлевізараў не бывае, - запярэчылі дзяўчынкі-блізняткі.

- Ну і што! А ў мяне будзе!

Люда павярнулася да сваёй дачкі і пачала наказваць:

- Нікуды з двара не выходзь. У хату нікога не пускай. Я пайду ў магазін, а ты сядзі ціха. Зразумела?

Сінія банцікі пакорліва кіўнулі ў адказ.

У суседняй сям'і было весела. Дзеці разам нешта майстравалі, крычалі, смяяліся. А дзяўчынка з сінімі банцікамі сядзела сумная. Урэшце яна не вытрымала і жаласліва папрасіла:

- Вазьміце мяне да сябе жыць.

Неўзабаве ўсе дзеці гулялі адной дружнай сям'ёй. Толькі Люда засталася адна.

- Падумаеш! - крычала яна са свайго кута. - Мне ў сто разоў лепей адной. Ніхто не перашкаджае... І арэхі ў мяне ёсць, і семкі... Нікому не дам, калі вы такія...

Але дзеці не слухалі.

І Людзе стала сумна адной. Нясмела падышла яна да дружнай вялікай сям'і і папрасіла:

- Давайце гуляць спачатку...

**МАРЫЯ ФІЛІПОВІЧ**





*Мышка Пік-Пік плыве за бананамі.* **Мал. Крысі Марчук**

# ШВАГЕР, ДЗЕВЕР...

Паспрабуйце адгадаць загадку: «Ішоў мужык з жонкай, брат з сястрой ды швагер з зяцем. Колькі ўсяго чалавек?»

Не спяшайцеся адказваць, бо хутчэй за ўсё памыліцеся. Лепш звярніцеся за падказкай да пажылых людзей, якія ведаюць і разумеюць ступені роднасці людзей як па лініі жонкі, так і па лініі мужа. А растлумачаць яны вось што.

Існуюць два асноўныя віды роднасці адносін: кроўная роднасць і някроўная - сваяцтва. Назвы кроўнай роднасці знаёмы ўсім. Гэта дзед, бабуля, бацька, маці, сын, дачка, брат, пляменнік, унук. Сёстры і браты бываюць стрыечныя (дваюрадныя) - іх яшчэ называюць кузен і кузіна, а таксама траюрадныя. Дваюрадныя і траюрадныя сёстры і браты нашых бацькоў даводзяцца нам дваюраднымі і траюраднымі дзядзькамі і цёткамі. Бабулі і дзядулі таксама бываюць роднымі, дваюраднымі і траюраднымі, а іх унукі - роднымі або траюраднымі пляменнікамі.

Някроўная роднасць або сваяцтва ўзнікае пасля шлюбу: сваякі мужа і жонкі становяцца сваякамі і ў адносінах адзін да аднаго.

Даўней сваяцтва называлі і паіншаму: сватанне, сватаўство, а сваякоў маладажонаў - сватамі і сваццямі.

А зараз пачнём знаёмства са сваякамі мужа і жонкі, іншымі словамі, успомнім усю радаслоўную генеалагічнага дрэва.

Швагер - брат жонкі.
Дзевер - брат мужа.

Швагерка - сястра жонкі, швагер - муж швагеркі.

Залвіца - сястра мужа.

Нявестка - жонка сына.

Свёкар - бацька мужа.

Свякроў - жонка свёкра, маці мужа.

Цётка - сястра свёкра, цесця, свекрыві, цешчы.

Дзядзька - брат свёкра, цесця, свекрыві, цешчы.

Цесць - бацька жонкі.

Цешча - маці жонкі.

Зяць - муж дачкі, муж сястры, муж залвіцы.

Дваюрадны брат - сын дзядзькі або цёткі.

Пляменнік - сын брата, сястры.

Пляменніца - дачка брата, сястры.

Кум і кума - хросныя бацька і маці. Так называюць іх бацькі дзіцяці, так клічуць яны адзін аднаго.

Дык ці адгадаеце вы цяпер загадку?

Правільна: ішлі тры чалавекі.





*Атакуе гусак Гусейн Ляшчынскіх з Орлі.!* *Фота М. Ваўранюка*

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА.**

**ЛЕКСІКАЛОГІЯ**

**14. Дыферэнцыяцыя лексікі паводле сферы яе выкарыстання.1/**

*Словы маюць розную ступень ужывальнасці. Адны з іх выкарыстоўваюцца ўсімі носьбітамі мовы, незалежна ад іх месца жыхарства, адукацыі, прафесіі, а другія — толькі жыхарамі данай мясцовасці, людзьмі пэўнай прафесіі ці прадстаўнікамі асобных сацыяльных груп. Значыць, у мове можна выдзеліць дзве групы лексікі: лексіку, ужыванне якой нічым не абмежавана і якую разумеюць усе носьбіты мовы, — агульнанародную і лексіку абмежаванага ўжывання.*

*У склад* **агульнанароднай лексікі** *ўваходзяць словы розных лексіка-семантычных груп, розных часцін мовы і розных стылістычных разрадаў. Складае яна аснову слоўнікавага складу беларускай мовы.*

*У склад* **лексікі абмежаванага ўжывання** *ўваходзяць словы, выкарыстанне якіх абмежавана тэрыторыяй (дыялектызмы), прафесіяй (прафесіяналізмы) ці пэўным сацыяльным асяроддзем (жарганізмы).*

*Да* **дыялектнай лексікі** *адносяцца словы, якія ўжываюцца толькі ў некаторых мясцовых гаворках і якія з'яўляюцца мясцовымі назвамі агульнавядомых прадметаў, дзеянняў, прыкметаў. Яны найчасцей маюць свае эквіваленты ў агульнанароднай лексіцы. У залежнасці ад таго, якімі рысамі адрозніваюцца ад агульнаўжывальнай лексікі, падзяляюцца на:*

— **лексічныя дыялектызмы** — *гэта мясцовыя словы-назвы, невядомыя літаратурнай мове. Сярод іх адрозніваюцца ўласна лексічныя і этнаграфічныя. Уласна лексічныя дыялектызмы — гэта мясцовыя назвы агульнавядомых прадметаў, з'яў і паняццяў, напр.: асца — сліна2/, брэнзлі — махры, векша — вавёрка, верч — скрутак, драбы — рэбры, жалязняк — рыдлёўка, зекры — вочы, зямец — пчаляр, пройма — скразняк, а этнаграфічныя — мясцовыя назвы мясцовых прадметаў, якія характарызуюць асаблівасці жыцця і быту людзей пэўнай мясцовасці, напр., у некаторых гаворках Гародзеншчыны ўжываецца слова кузёмка, што абазначае пасудзіну з кары для збірання ягад, якая ў іншых рэгіёнах Беларусі не сустракаецца;*

— **семантычныя дыялектызмы** — *гэта такія мясцовыя назвы, якія ў вымаўленні і напісанні супадаюць з агульнанароднымі словамі, але адрозніваюцца ад іх сваім значэннем, напр.: „у некаторых гаворках Брэстчыны сівец называюць шчоткай, слова казлы ў гаворках Чэрвеншчыны адпавядае літаратурнаму люцік. Словы шчотка і казлы вядомы літаратурнай мове, але выкарыстоўваюцца ў ёй у іншых значэннях і ў іх семантыцы няма нічога агульнага са значэннямі дыялектных слоў. Значыць, падобныя лексіка-семантычныя дыялектызмы неабходна разглядаць як словы-амонімы ў адносінах да тых агульнанародных слоў, з якімі яны супадаюць у вымаўленні і напісанні";3/*

— **словаўтваральныя дыялектызмы** — *такія мясцовыя назвы, якія ад агульнанародных слоў адрозніваюцца словаўтваральнымі сродкамі: прэфіксамі (абмыліцца — памыліцца, запамагчы — дапамагчы, зрыхтаваць — падрыхтаваць, зрадзіць — урадзіць), суфіксамі (глушак — глушэц, карчаваты — карчысты, куравы — курны, лядыш — лядзяк, радкавы — радкаваты, языкаваты — языкаты) ці словаўтваральным спосабам (унепрыкметку — непрыкметна);*

— **марфалагічныя дыялектызмы** — *такія мясцовыя назвы, якія адрозніваюцца ад адпаведных агульнанародных слоў канчаткамі (пасцеля — пасцель, фасоль — фасоля) і пры гэтым вельмі часта граматычным родам (друза — друз, рукаво — рукаў, чарано — чарэнь);*

— **фанетычныя дыялектызмы** — *словы, якія адрозніваюцца ад агульнанародных эквівалентаў асобнымі гукамі (галоснымі ці зычнымі) або месцам націску: адлега — адліга, задзёрысты — задзірысты, лупаць — лыпаць; гужышча — вужышча, жала — джала, жбан — збан, імгла — імга, тагды — тады, праля — пралля, хвартух — фартух; выростаць — вырастаць, моладасць — маладосць, попелішча — папялішча.*

———————————

*1/ Літаратура: В.П. Красней, Лексіка і фразеалогія беларускай мовы, Мінск 1982, с. 81—93; В.П. Красней, У.М. Лазоўскі, І.М. Шчарбакова, Сучасная беларуская мова. Лексікалогія. Фразеалогія, Мінск 1984, с. 77—82; В.П. Красней, Грані слова, Мінск 1986, с. 98—109; Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Фанетыка. Арфаграфія. Лексікалогія , Мінск 1961, с. 178—181.*

*2/ Крыніцай большасці дыялектызмаў, выкарыстаных у артыкуле, з'яўляецца Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, т.1—5.*

*3/ В.П. Красней, У.М. Лазоўскі, ... с.79.*

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Мой сынок моцна хворы. Чакае яго аперацыя. Я моцна перажываю і вось сніцца мне такі сон. Мой сын у постаці св. мучаніка младзенца Гаўрыла. Апрануты ў чорны гарнітурчык з бліскучымі гузікамі ў два рады. Ён сядзіць на аднаспальным тапчане, засланым сівым пледам. Раптам мой сынок устаў і з гэтага тапчаніка саскочыў. Я вельмі здзіўлена, што ён заўсёды ляжаў, а то стаіць, ды і сам саскочыў і стаў. Глядзім мы адно на другое. Потым ён перада мною перабег і ўскочыў на другі разложаны тапчан, засланы таксама сівым пледам. Ён на тым тапчане пачаў скакаць. Я яго супакойваю, каб не скакаў, каб не ўпаў. Гэта адбываецца ў хаце маёй сяброўкі. У хаце гарыць святло.

**Тамара**

Тамара! Твой сон вельмі шматзначны. Сын твой прысніўся табе ў выглядзе святога Гаўрыла. Як вядома, св. Гаўрыіл, будучы 6-гадовым дзіцём, стаў 11 красавіка 1690 г. ахвярай забойства. Пакінуты без нагляду ў сваёй роднай хаце ў в.Звяркі, што каля Заблудава, ён быў выкрадзены ў недалёкі лес, дзе быў забіты. Цела яго было знойдзена пасля трох дзён, а сабакі ахоўвалі яго ад птушак. Цела мучаніка пахавалі ў вёсцы Звяркі, каля царквы, што знаходзілася ў лесе каля дарогі ў Заблудаў. Праз 30 гадоў была ў наваколлі эпідэмія, і людзі часта хавалі памершых дзяцей вакол магілы Гаўрыіла. Аднойчы людзі кранулі магілу замучанага дзіцяці і адкапалі цела. Яно не падверглася распаду. Традыцыя спалучае з гэтым здарэннем шматлікія выздараўленні і канец эпідэміі. Адкапанае цела св. Гаўрыіла пахавалі ў царкоўным склепе. У час пажару ў 1746 годзе царква ў Звярках поўнасцю згарэла, а рэліквіі мучаніка засталіся някранутымі. Руская царква ўпісала Гаўрыіла ў лік святых у 1820 годзе. Гэта адзіны з кананізаваных беларускіх святых у Праваслаўнай царкве з тэрыторыі сучаснай Польшчы. Святы мучанік Гаўрыіл з'ўляецца апекуном беларускіх дзяцей. (Гл. артыкул Антона Мірановіча „Святы мучанік Гаўрыіл Заблудаўскі", „Ніва" н-р 18 (1825) ад 5 мая 1991 года).

Дык вось, Тамарачка, можа і твайго малога сыночка абароніць ад смерці святы Гаўрыіл. А рэшту зробяць лекары, і твой сынок будзе зноў, здаровы, скакаць, як скакаў у тваім сне на тапчане.

**АСТРОН**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Мне ўжо хутка трыццаць, а на выйсце замуж шанцаў не відаць. Хлопцаў навокал мора, але ўсё не тое, што мне б хацелася. Вось і нядаўна. Ужо, здаецца, закахалася па самыя вушы. Прыстойны, вельмі ветлівы, дзяўчаты за ім шалеюць. Танцуе цудоўна, шарманцкі — дзяўчына толькі паспее чагосьці пажадаць, як ужо выконвае яе жаданне. Запрасіў мяне і свайго калегу калісьці ў рэстаран. Сыпаў грашыма налева і направа. Ставіў і частаваў. Мне было прыемна, а яго сябра быў зайздросны, што я была не яго дзяўчынай.

І вось настаў час, што мы сталі сапраўднымі каханкамі. Сустрэліся ў мяне, бо бацькі якраз выехалі да сваякоў. Расчараванне было страшнае. У яго нічога не выходзіла! Ён гэта надта перажыў. Усё паўтараў, што так марыў пра тое, як прытуліць мяне да сябе, так чакаў гэтага моманту. Казаў, што ніколі нічога падобнага з ім не здарылася. І я неяк міжволі верыла яму. Ён быў разгублены і ў роспачы, і я зразумела, што, пэўна, ён не імпатэнт і наступным разам усё будзе добра.

І вось неўзабаве надарылася ізноў аказія для інтымнай сустрэчы. Нас запрасіла мая сяброўка на імяніны. У яе была кватэра з трох пакояў, жыла адна, бо з мужам развялася. Кампанія была вельмі вялікая і шумлівая. Было весела і прыемна.

Мой хлопец цалаваў мяне, як шалёны. Быў вельмі ўзбуджаны. У пэўным момантце мы апынуліся ў сяброўчынай спальні, у ложку ляжала чысценькая, відаць, толькі што змененая пасцель. Мы бухнулі проста ў яе. Мой хлопец на гэты раз быў цудоўны. Сапраўды паказаў, што ўмее кахацца. Я была закаханая. У пэўным моманце я заўважыла, што мой хлопец пакінуў нейкую брудную рысу на прасціне. Я прыгледзелася: гэта быў кал. Мяне страсянула. Больш ужо не магла з ім кахацца. Неўзабаве мы пайшлі дадому. Хлопец мой не разумеў, што здарылася, а я яму не хацела нічога гаварыць. Але больш з ім не сустрэлася. Скажы, Сэрцайка, ці чысціня не абавязвае і мужчын?!

**Бася**

Бася! Чысціня абавязвае і жанчын, і мужчын. Ты даравала яму той першы раз, але не змагла дараваць другі. Мо і можна было б цябе зразумець: тое, што ты ўбачыла, магло сапраўды загідзіць табе гэтага хлопца, але, можа, трэба было падумаць пра варункі, у якіх адбылося ваша зближэнне. Вы ж былі ў гасцях, мо ён быў у туалеце, кепска падцёрся, а мыцца ў чужой ванне не выпадала. У жыцці бывае па-рознаму.

Аднак жа, не толькі хлопец, але і шматгадовыя муж ці жонка павінны дбаць пра гэтыя справы. Ні горкі запах поту, ні смурод брудных шкарпэтак не дадаюць бляску палавым зносінам, а могуць нават і цалкам адпіхнуць партнёра.

**СЭРЦАЙКА**

# КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

**Суп з гароднiны**

Прадукты: 30 дэкаў курынага, індычага ці качага мяса (крыльцы, шыя, жалудак, пячонка), 60—80 дэкаў гароднiны — морквы, пятрушкі, сэлера, пораў, 15 дэкаў цыбулі, 1 лыжка тлушчу: 3/4 шклянкі смятаны, 1 шклянка малака, 6 лыжак пасечанай зеляніны пятрушкі і кропу, соль, перац, 2 яйкі, 10 дэкаў мукі.

Мяса заліць гарачай вадой, зварыць, адцадзіць. Калі астыне, нарэзаць. Гароднiну памыць, ачысціць, спаласнуць, сцерці на тарцы, стушыць на тлушчы, даліваючы крыху адвару. Яйкі памыць, па чарзе ўліваць іх у місачку, муку прасеяць у збаночак, дадаць яйкі, збіць драўлянай лыжкай, уліваць цеста тонкім струменьчыкам у рэшту кіпячага адвару. Калі „літыя" клёцкі выплывуць наверх, значыць яны гатовыя. Тады спалучыць іх з гароднiнай і нарэзаным мясам, дадаць кіпячонае гарачае малако, смятану і пасечаную зеляніну. Дадаць па смаку солі і перцу.

**Бульбяны суп з порамі**

Прадукты: 40 дэкаў гароднiны (морква, сэлер, пятрушка), 40 дэкаў пораў, 25 дэкаў „звычайнай" каўбасы, 80 дэкаў бульбы, 3/4 шклянкі смятаны, соль, перац, 8 лыжак пасечанай зялёнай цыбулькі з зялёнай пятрушкай.

Гароднiну памыць, абабраць, спаласнуць, сцерці на гароднiннай тарцы, заліць кіпячай вадой і варыць на працягу мінут 10-ці. Поры вельмі дакладна ачысціць, памыць і дробна нарэзаць. Бульбу памыць, абабраць, спаласнуць, нарэзаць кубікамі. Укінуць разам з порамі ў суп. Калі гароднiна будзе мяккая, зняць суп з агню, дадаць смятану і зеляніну, соль і перац. Асобна зварыць каўбасу, зняць з яе скурку, нарэзаць тоненькімі скрылёчкамі. Палажыць каўбасу на талерку, заліць гарачым супам. Есці з цёмным хлебам. Такога супу хопіць на цэлы абед.

**Суп са свежай капусты**

Прадукты: 40 дэкаў свіных робрышак, 70 дэкаў свежай капусты, 30 дэкаў цыбулі, 3—4 лыжкі таматнай пасты, 3/4 шклянкі смятаны, 1 лыжка мукі, соль, перац, 8 лыжак пасечанай зялёнай пятрушкі.

Мяса памыць, парэзаць на порцыі, заліць гарачай вадой, зварыць. Нашаткаваць капусту, дробненька нарэзаць цыбулю, укінуць у суп. Калі ўжо суп зварыцца, заправіць яго смятанай, перамешанай з мукой, закіпяціць, увесь час памешваючы. Зняць з агню, дадаць таматную пасту і зялёную пятрушку, дадаць па смаку солі і перцу.

Падаваць з асобна зваранай бульбай, палітай падсмажанай саланінай.

**ГАСПАДЫНЯ**

## САМАСТОЙНАСЦЬ — РАДАСЦЬ І БЯДА

Дзяржаўны дом дзіцяці ў Белавежы арганізаваў нядаўна мілую, але адначасова і сумную ўрачыстасць набыцця самастойнасці выхаванцамі — Анэтай, Міхалам, Маркам, Ганнай, Андрэем, Войцехам і Багданам. Самастойнасць самастойнасцю, але толькі трое з іх знайшло працу. Апошніх чакае ўспамога для беспрацоўных. Як ім, сіротам, глядзець у будучыню? Дзе і за што ім жыць? У падобнай сітуацыі апынулася шмат маладых, але яны могуць спадзявацца на падтрымку бацькоў ці сваякоў.

Усё ж такі цяжка жыць, маючы толькі сябе самога.

**П. БАЙКО**

**ВЕЧНЫ**

Са старажытных Афін,
Улева і ўправа ад Грынвіча,
Пануе трыбунны Графін.
Слава табе! Графінічы.

**АБЯЦАНКІ-ЦАЦАНКІ**

Абяцаў яснапалійскі бос
Па сто мільёнаў на нос.

**СІДАР МАКАЦЁР**

## ДАПЫТЛІВЫЯ

Маці з сынам вярнуліся з санаторыя.

— Як адпачылі? — пытае сына бацька.

— Выдатна, тата: хадзілі ў лес, на рэчку, і нават пазнаёміліся з Героем Савецкага Саюза. Але ён трусом аказаўся: ноччу адзін спаць баяўся — усё з мамкай ды з мамкай.

* * *

Урок эстэтыкі. На стале стаіць мармуровая статуэтка Мілоскай Венеры. Настаўніца пытае:

— Вовачка, скажы, што табе спадабалася ў гэтым творы мастацтва?

— Ножкі!

— Вон з класа! Ну, а ты, Бора, скажы, што табе падабалася?

— Грудзі!

— Вон з класа!

— Ну, а ты, Лёва, што скажаш?

— Выходжу, выходжу, выходжу...

* * *

Ідзе экзамен у мединстытуце, Уваходзіць дзяўчына. Экзаменатар пытае:

— Што падымаецца за пяць секунд?

Дзяўчына пачырванела і маўчыць. Ёй ставяць „двойку".

Уваходзіць наступная дзяўчына.

— Што падымаецца за пяць секунд?

Такая ж самая рэакцыя. Уваходзіць хлопец.

— Што падымаецца за пяць секунд?

— Артэрыяльны ціск.

— Правільна. А гэтым двум скажыце, што тое, аб чым яны думалі, падымаецца за трынаццаць секунд.




*Мал. І. Чалмадзеева*




*– Ідзі, аднясі аліменты.*

## АХ, СЦЯПАН...

— Не пі! — папярэджвала жонка. — Гэта — атрута.

Сцяпан кінуў піць.

— Не куры! — загадала жонка.

Сцяпан паслухаўся.

— Не пі кавы! — упрошвала жонка. — Бо станеш кафеістам.

Сцяпан пагадзіўся.

— Не пі гарбаты, — прасіла жонка. — Інакш заробіш бяссонніцу.

Сцяпан перастаў ужываць гарбату.

— Не еш мяса, — настойвала жонка. — Яно з радыенуклідамі.

Сцяпан пакрахтаў, але паслухаўся.

— Не ўлягай на зеляніну — яна з нітратамі.

Сцяпан не пярэчыў.

— Не пі мінералкі! — патрабавала жонка.

Сцяпан не спрачаўся.

— Не пі негатаванай вады... Не... Не...

Мы ўсе сёння сабраліся, каб... Ён быў чулы і спагадлівы таварыш, цудоўны сем'янін, слухаў не толькі начальства, але і жонку...

**УЛАДЫСЬ ЦВЯТКОЎ**

**РАЗМІНКА**

З-пад крана смагу наталі:
Пахмелле — не разынкі.
Нядарма рынку надалі
Сусветны ранг размінкі

**ПЛЮГАВЕЦ**

З падшывак колішніх газет
Свае даносы выдраў.
З палонкі вынырнуў на свет
Сушэйшы, чымся выдра.

**СІТУАЦЫЯ**

Рубель набраў такі галоп,
Што дзьме ў вушах страшэнна,
Аж вочы вылезлі на лоб
У жаху, як кішэні.

**АМУЛЕТ**

Насіла дзіўны амулет,
Прабабкаю зашыты.
Цяпер пры ім і пісталет
На лебядзінай шыі.

**НЕХЛЯМЯЖЫ БАРСУК**

Прысмакі жоначцы варыў,
Грыбкі сушыў і смажыў,
А тая мыльнула з нары:
Навука нехлямяжым!

**ЮРКА ГОЛУБ**

## АНЕКДОТЫ

Васіль Іванавіч і Пецька пайшлі ў разведку. Доўга паўзлі па полі. Раптам убачылі хацінку, з якой чулася музыка.

— Глінка, — сказаў Васіль Іванавіч.

— Якая гінка, другую гадзіну па гноі паўзеш.

* * *

Паручнік Ржэўскі:

Учора быў на пахаванні. Такая арыстакратычная сям'я. Выносяць нябожчыка. Музыка заіграла. Усе ацапянелі. Ну, а я нічога — даму запрасіў.

* * *

Наведвальнік у рэстаране бесперапынку крычыць: „Таварыш афіцыянт!" Нарэшце афіцыянт падыходзіць.

— Я заказваю біфштэкс ужо трэці раз!

— Я рады, што ён вам так спадабаўся.

* * *

Афіцыянт прыносіць адбіўную, прытрымліваючы яе пальцамі. Госць гнеўна пытаецца:

— Ці нельга зняць пальца з маёй катлеты?

— Няўжо вы хочаце, каб я скінуў на падлогу адбіўную ў трэці раз.

* * *

— Афіцыянт, я толькі што глядзеў меню: рыба была выкраслена, а цяпер яна зноў з'явілася. Што гэта значыць?

— Бачыце, таварыш, які сядзіць за суседнім столікам, вярнуў сваю порцыю.

* * *

Наведвальнік сярдзіта сказаў афіцыянту:

—Паслухайце, грыбы, якія я пазаўчора ў вас з'еў, аказаліся ядавітымі. Я атруціўся і мне рабілі прамыванне страўніка.

— Праўда? — узрадаваўся афіцыянт. — Значыць, я выйграў пары ў дырэктара рэстарана!

* * *

— Афіцыянт, у гэтай курыцы адна нага карацей другой!

— Ну і, што! Вы ж не збіраецеся танцаваць з ёю.

* * *

Сустракаюцца двое сяброў, якія не бачыліся пятнаццаць гадоў.

— Што новенькага? — спытаў адзін.

— Ты ведаеш, жонка мне здраджвае.

— Ты мяне няправільна зразумеў. Я спытаў: „Што новенькага?"

* * *

Пятнаццацігадовы юнак кажа сваёй дзяўчыне:

— Паколькі нас не пусцілі на гэты фільм па прычыне, што ён „дзецям да шаснаццаці", то давай вернемся дамоў.

— Ды і наогул нечага было вылазіць з пасцелі, — адказала незадаволена сяброўка.

* * *

— Аліса, як табе падабаецца мой жаніх?

— Зусім інтэлігентны, сімпатычны, адукаваны... Калі б ён яшчэ і ў сне храпеў цішэй!

* * *

Першая дзяўчына: — Учора, калі Мікола праводзіў мяне дамоў, ён стаў мяне цалаваць і падняў на ногі ўвесь дом.

Другая дзяўчына: — Ён, што, спрабаваў цалаваць цябе супраць тваёй волі?

Першая дзяўчына: — Не, супраць кнопкі званка.

*Прыслаў В. Бабей*
*г. Менск.*

## РАЗЕТКА НА „Р"

**Управа:** 1) арнамент, як кветка, 2) магутная зброя, 3) дрэва з прыгожымі пладамі, 4) ліквідацыя пашкоджання, 5) адваротны бок медаля, 6) напад з гвалтам (адзін + змаганне), 7) рака не памяшчаецца ў берагах, 8) матэрыял фізічнага цела.

**Улева:** 1) кавалак тканіны, якой выціраешся, 2) лічыць варон, 3) сваячка вярбы, 4) дзейнасць, справа, вынік працы, 5) любоўны твор, 6) выйгрыш за пройгрыш, 7) робіць яе плуг, 8) шлюб няважны.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на разетку з 24 н-ра. Управа:** жабрак, зараза, жывёла, загана, жалеза, злучок, жвачка, зарыва. **Улева:** жэрдка, забава, журнал, завязь, Жыгулі, зелень, Жмудзь, званок.





Ніва

**"Niwa"**

ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skrt. poczt. 149, tel.210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Віталь Луба (в.а. галоўнага рэдактара), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Ялантa Панфілюк (карэктар), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał upływa 20 sierpnia 1992 r.

2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26 000 zł.

3. Cena prenunmeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszwa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 3500 zł., a kwartalnie - 45.500 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.